# Ніва

ISSN 0546—1980
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 48 (1542) ГОД XXX БЕЛАСТОК 1 СНЕЖНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## ГАРЧАКІ

Хоць гэтая шляхецкая ваколіца і прыналежыць да Шудзялаўскай гміны, але трапіць у яе зручней з Саколкі па асфальтаванай шашы на Бабікі, па ёй у 7-8 кіламетрах паварочваеце налева — і ў кіламетры перад вамі Гарчакі Дольныя, а яшчэ праз адзін кіламетр — Гарчакі Горныя. Мясцовасці тут дзве, але іх пачатак адзін — старадаўні беларускі шляхецкі род Гарчакоў. Іх продак, мабыць, выхадзец з-пад Наваградка, тут, у Гарадзенскім княстве — пры старым шляху з Гародні праз Адэльск, Крынкі, Гарадок, Ялоўку, Бельск і далей на Люблін ці Крэкаў — яшчэ ў часы Вітаўта (1350-1430 г.г.) мог атрымаць ладны зямельны надзел. За якія заслугі — невядома. Але не без значэння было ў гэтым тое, што князь Вітаўт асабліва дбаў пра загаспадаранне прызначанага яму бацькам у асабістае ўладанне Гарадзенскага княства. Перш за ўсё ён клапаціўся пра засяленне Гарадзеншчыны, умацаванне крэпасцяў, бяспеку і спраўнасць дарог, развіццё гандлю і г.д.

Продак сённяшніх Гарчакоў не быў пасаджаны тут на „сырым корані“, г.зн. у дрымучай пушчы, якую трэба было карчаваць, каб „разрабіць ляда“ (па сённяшняму: вырабіць поле на навіне — М.Г.). У IX-XIII стагоддзях у гэтай ваколіцы жыло змешанае крывіцкае і дрыгавіц-

(Праця́г на стар 4)



Крыж у памяць шляхцянкі, якая памерла ад кахання да „прастака“.

## АСЕННЯЕ ПАДАРОЖЖА БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ

Восень, асабліва такая, калі яшчэ не занадта холадна, калі няма прымаразкаў і снегу, дае цудоўную нагоду для кароткіх некалькідзённых рэйдаў. У беларускім студэнцкім асяроддзі асаблівай папулярнасцю карыстаюцца менавіта такія нядоўгія, двух- і трохдзённыя вандроўкі.

Першым беларускім рэйдам быў арганізаваны ў 1981 годзе Беларускім аб'яднаннем студэнтаў (БАС) рэйд, названы „Залатая восень“. І здавалася б, што паслядоўна будзе ісці адно падарожжа за другім. На жаль, на вялікі жаль, так не выйшла. Наступнага рэйду давялося чакаць тры гады. Гэтыя га[illegible] [illegible]таткова ўсведамілі ўсім, што [illegible]піць ужо займацца нікому непатрэбнымі спрэчкамі, што трэба ўзяцца за канкрэтную дзейнасць, не аглядаючыся нэ нішто.

Рэйд гэта таксама нагода да аднаўлення старых знаёмстваў ці ўстанаўлення новых. Гэта нагода да сустрэчы студэнтаў з Варшавы са студэнтамі з Беластока, з моладдзю ліцэяў ці ўвогуле з моладдзю. Студэнты паставілі перад сабой галоўную задачу: абыйсці пехатой усе беларускія землі, што знаходзяцца ў межах Народнай Польшчы. Хутка, аднак, выявілася, што ў цяперашні час гэта немагчыма. Замала ёсць людзей добрай волі, асабліва, на Дуброўшчыне і Белападляшчыне, якія маглі б прыняць групу на начлег. Вынікае гэта з простай прычыны: з адсутнасці свядомага беларускага элементу на гэтых землях. На іншых жа землях знайшлося шмат людзей, якія не толькі прынялі і надалей ахвотна прымаць гатовы студэнтаў, ал і даюць ім гасціну. За гэта ім шчырае беларускае дзякуй.

У гэтым навучальным годзе беларускія студэнты арганізавалі ўжо адно такое падарожжа, дарэчы ўжо сёмае ўвогуле. Арганізатарамі былі, як і дагэтуль, беларускія студэнты Варшаўскага універсітэта. Працягвалася яно ад 18 да 20 кастрычніка і прынясло шмат уражанняў і радасці ўсім яго ўдзельнікам.

У пятніцу 18 кастрычніка моладзь з'ехалася ў Саколку, дзе быў назначаны зборны пункт і пачатак рэйду. Тут ветліва прыняла нас на гасціну сакольская моладзь. Асаблівая падзяка ад арганізатараў належыцца праваслаўнаму свяшчэнніку Уладзіміру Місеюку. Ён у сваім кароткім дакладзе расказаў прысутным пра гісторыю праваслаўя на Сакольшчыне, яго суадносін з іншымі веравызнаннямі, а на другі дзень паказаў нам царкву і расказаў пра яе. Неза-

(Працяг на стар. 5)




### „АЦЭНЯЦЬ НАС МАЛАДЫЯ“

Розныя апаноўвалі мяне пачуцці, калі я чытаў чарговае выступленне А. Анташэвіча („Ацэняць нас маладыя“, „Ніва“ № 43 ад 27.X.1985 г.). Часам узрастала ўва мне пачуццё спагады да аўтара, хварэючага надзвычай моцнымі комплексамі (параўнай ягоныя эпітэты: „заядлы беларус“, „жалезны галоўны рэдактар“ ці сказ: „Справа не ў тым, каб валачы на эшафот старыя кадры“.). Дагэтуль не магу зразумець, што значыць быць „заядлым беларусам“ ці „жалезным рэдактарам“. Наколькі магу пагадзіцца з надзвычай культурным словам „патрыёт“, ці „беларускі патрыёт“ або „рэдактар“, настолькі насцярожвае мяне „заядлы беларус“ ці „жалезны рэдактар“. Праўда, гісторыі вядомы некаторыя „жалезныя людзі“ ці нат прадметы (успомніўся „Жалезны Фелікс“ ды „das Eiserne Kreuz“), усё ж ніяк не мог я гэтага аднесці да Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Народнай Польшчы.

Прытым А. Анташэвіч, выступленне якога лічу, нягледзячы на ўсё, вельмі патрэбным, своечасовым, якое ўносіць шмат... (о, парадокс!) дэмакратычнага ў склад грамадскай думкі беларускага руху ў Народнай Польшчы ўвогуле, выступіў з пазіцыі святой індыйскай каровы! Бо ж ён, як прамінэнт беларускага руху з трыццацігадовым стажам, палічыў сябе недатыкальнай асобай! (Адкуль мы гэта ведаем?) Адразу ж упікнуў мне „бабскае манерніча́нне“ ды абыякава збыў „ненатэмнасцю“ маё папярэдняе выступленне (гэта ў 27 нумары „Нівы“ ад 7 ліпеня 1985 г.), бо ж я... „пацікавіўся... яго асобаю“!

Не ўнікаю я ў прыватныя справы А. Анташэвіча. Не магу, аднак, абысці яго асобу ў кантэксце агульных, грамадскіх спраў, якія цесна звязаны з беларускім рухам у Народнай Польшчы, з якім ён, дарэчы, атаясамліваецца, а тым больш, калі ён катэгарычна кідаецца са сваёй трафарэтнай (на яго думку: „універсальнай“) фразеалогіяй на адышоўшы не па сваёй віне актыў Беларускага таварыства.

Я дасканала ўсвядоміў сабе ідэйную вастрыню майго папярэдняга выступлення. Ведаў, што Анташэвіча каса трапіла на гэты раз на камень, без якога далей яму ані руш! (Адсюль яго доўгае маўчанне, якое спыніў М. Куптэль ды й асабістае сум-

(Працяг на стар. 4)

## НА МЯЖЫ

### АБ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ І ДЗЯРЖАЎНАСЦІ (XIV)

Наша драма заключаецца ў крытычным стане нацыянальнай свядомасці, у невялікім ліку людзей, якія гатовы ўсімі сіламі ўключыцца ў працэс абароны роднага. Нацыянальная ж непаслядоўнасць многіх беларускіх дзеячоў, якая заключаецца ў тым, што гэтыя дзеячы, нягледзячы на тое, што часта ядуць хлеб з рацыі сваіх службовых сувязей з беларускай арганізацыяй, з беларускай прэсай ці беларускім школьніцтвам, абмяжоўваюць сваю нацыянальную дзейнасць да іншых, не пераносячы яе на грунт уласнай сям'і і не даводзячы яе да ўласных дзяцей. Як жа мне было балюча, калі я аднаго разу пазваніў да вядомага беларускага журналіста, а яго дачка, падняўшы тэлефонную трубку, злосным голасам заявіла: „Proszę mówić po polsku, bo ja po rusku nie rozumiem!" Значыць, што той журналіст, які часта пісаў палымяныя патрыятычныя беларускія артыкулы, не паклапаціўся, каб свае прыгожыя ідэалы давесці да ўласнага дзіцяці. Зразумела, што, на шчасце, ёсць выключэнні. Я ўжо калісьці пісаў, што будучы ў Варшаве можаце пазваніць Туронку і, калі падыдуць да тэлефона яго дочкі, якія нарадзіліся ў Варшаве, дык адкажуць вам па-беларуску. Тое самае зробяць і дзеці нашага дзеяча Фёдара Галёнкі. Параўнаўча нядаўна ажаніўся наш дзеяч з Варшавы Мікалай Аляксеюк. Ён мне заявіў, што сваю маленькую дачку яны з жонкаю спачатку навучаць роднай мове, а пасля ўжо польскай. І ці ж гэта не лагічна? І ці ж гэта не павінна быць прыкладам для тысяч тых беларусаў з Беласточчыны, якія жывуць на роднай зямлі, але нягледзячы на гэта вучаць сваіх маленькіх дзетак толькі па-польску і як ад агню стараюцца адгарадзіць іх ад беларускасці?

Сорам за сваё, боязь роднага гэта страшэнная ракавая хвароба, якая распаўсюджваецца страшнымі тэмпамі. Нядаўна я даведаўся, што сярод студэнтаў беларускай філалогіі ёсць такія, што, жывучы ў доме студэнта па вул. Смычковай на працягу пяці гадоў, дэманстрацыйна стараюцца жыць не з беларусамі і не менш дэманстрацыйна на працягу гэтага доўгага часу пазбягаюць ужывання роднай мовы, хаця і з'яўляюцца дзецьмі беларусаў з Беласточчыны і добраахвотна выбралі беларусазнаўчы напрамак адукацыі. Аб чым гэта сведчыць? Перш за ўсё аб духоўным спусташэнні, аб ахвоце жыць выгодна і спакойна, аб імкненні дагадзіць чужому, а не роднаму, аб ахвоце прыстасавацца большасці, аб гатоўнасці служыць мацнейшаму.

Няма сумненняў, што такіх людзей у бліжэйшай ці далейшай перспектыве чакае невясёлая будучыня. Ім у канцы канцоў чужыя скажуць, што аб іх саправуды думаюць. А вядома, што аб такіх людзях думаць добрага нельга. Ці ж мы, беларусы, шанавалі б паляка, які б дэманстрацыйна выракаўся свайго роднага і дэкляраваў бы на кожным кроку прыязнасць да беларускасці? Не шанавалі б: кожны разумны чалавек прыйшоў бы да вываду, што мае дачыненне з істотай крывадушлівай, хітранькай, паганенькай, якая хавае сваё сапраўднае аблічча дзеля нейкіх мэт і нейкіх цёмненькіх інтарэсаў. Вось тое самае думаюць і палякі аб беларусах-рэнегатах. Хачу сказаць, што выказванні палякаў аб такіх беларусах, якія ў Варшаве зайшлі вельмі высока, а пры гэтым не прызнаюцца да сваёй нацыя-

(Працяг на стар. 7)

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### НА ЗАПАВЕТНЫХ СЦЕЖКАХ

Беларуская зямля пранесла праз стагоддзі, захавала ад войн і пажараў, зберагла вялікі цуд прыроды — лес. На поўначы і поўдні, захадзе і ўсходзе рэспублікі спатыкае падарожнікаў то звонкі сасновы бор, то густы ельнік, то светлы бярозавы гай.

Угоддзі Бярэзінскага запаведніка займаюць плошчу семдзесят шэсць тысяч гектараў. Гэта унікальны куток беларускай прыроды, уключаны ў сетку біясферных запаведнікаў у рамках праграмы ЮНЕСКА „Чалавек і біясфера". Прыкладна дзве трэці яго тэрыторыі пакрываюць лясы.

Запаведныя лясы прыгожыя. Але захоўваюцца яны не самі па сабе. Дзевяць ляснііцтваў і егерская група — 40 інжынераў і тэхнікаў, многа леснікоў і егераў, дзесяткі рабочых вядуць на тэрыторыі Бярэзінскага запаведніка штодзённую працу: расчышчаюць прасекі, узорваюць супрацьпажарныя палосы, даглядаюць маладняк.

Ёсць у запаведніку унікальнае месца — зона абсалютнай непарушнасці. Асаблівы дух лунае ў гэтым лесе. Тут вастрэй і паўней, чым дзе-небудзь, адчуваеш веліч закону, па якіх жыве прырода. Тут чалавек ні ўва што не ўмешваецца. Уміраюць старыя дрэвы, падаюць, іх ствалы ніхто не прыбірае. У гэтай зоне забаронена ўсялякае ўмяшанне ў прыроду — гэта робіцца дзеля таго, каб прасачыць натуральную эвалюцыю прыродных комплексаў.

Бярэзінскі запаведнік — эталон прыроды ўсёй нечарназемнай зоны Савецкага Саюза. Нямат якія запаведнікі могуць зраўнавацца з ім па запісах каштоўных і рэдкіх відаў раслін і жывёлін. Тут захоўваецца 906 відаў раслін, 53 віды млекакормячых і 205 відаў птушак. Запаведнік знамянальны перш за ўсё такімі жывёлінамі, як мядзведзь, дзік, лось, бабёр, казуля, алень. Рэдка дзе яшчэ ў рэспубліцы ўбачыш чорнага бусла, шэрага жураўля, пугача, скапу.

Запаведнікі і заказнікі займаюць амаль пяць працэнтаў тэрыторыі Беларусі. Унікальны сваімі дубровамі і маляўнічымі балотамі Прыпяцкі дзяржаўны ландшафтна-гідралагічны запаведнік, багаты жывёльны і раслінны свет Белавежы. Пад пастаянным наглядам знаходзіцца мноства прыродных аб'ектаў: рэкі, азёры, расліны, глебы. Запаведнікі не проста захоўваемыя ўчасткі дзікай прыроды. Гэта навуковыя ўстановы, праца тут праводзіцца штодзённа, стацыянарна. Навуковыя доследы вядуць супрацоўнікі Цэнтральнага батанічнага саду, Інстытута эксперыментальнай батанікі Акадэміі навук Беларускай ССР, Беларускага навукова-даследчага інстытута ляснoй гаспадаркі, лабараторыі універсітэтаў. Комплексная праграма назіранняў у Бярэзінскім біясферным запаведніку ўключае вымярэнні забруджанняў на фонавым узроўні, вывучэнне рэакцыі жывых арганізмаў на гэтыя забруджванні. Аўтаматычныя метэаралагічныя станцыі вядуць рэгулярнае назіранне за канцэнтрацыяй забруджваючых рэчываў, за зменамі клімату. З сотняў разнастайных доследаў, якія праводзяцца ў запаведніку, складваецца фундамент вялікай навукі аб жыцці — біялогіі. Не толькі вывучаць прыроду, але і ўзбагачаць яе — такую задачу ставяць перад сабою савецкія вучоныя. Прырода не бясконца багата, толькі ад нас саміх залежыць, як доўга будзе жыць скарб, падораны нам ёю.

**Святлана Руднева,**
начальнік Цэнтра па вывучэнню і кантролю забруджання прыроднага асяроддзя Беларускага ўпраўлення гідраметэаралогіі і кантролю прыроднага асяроддзя.

## НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

### AIDS У НАСТУПЛЕННІ

Вось ужо які месяц на Захадзе пануе ўзбуджанасць у сувязі з таямнічай хваробай, якая ўсё больш нагадвае размах эпідэміі. З газет крычаць страшэнныя загалоўкі, у якіх нязменна прысутнічае слова AIDS. Друкуецца мноства фатаграфій ахвяр гэтай хваробы, інтэрв'ю са свяцiламі медыцыны. Іх адказы стандартныя: „шмат таямнічага", „няясна, як і чым лячыць пацыентаў", „трэба пачакаць з вывадамі"...

Тым часам хвароба не чакае. Па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, яна прыйшла ўжо ў ЗША, Канаду, Англію, Францыю, Бельгію, Галандыю, Данію, ФРГ, Нарвегію, Аўстралію, дзяржавы Афрыкі, Латынскай Амерыкі. Толькі ў Злучаных Штатах таямнічая хвароба забрала 6 тысяч жыццяў. Менавіта адсюль яна і пайшла гуляць па свеце.

AIDS Acquired Immune Deficiency Syndrome), або СНІД („Сіндром набытага імуннага дэфіцыту"), адносіцца, мабыць, да тых хвароб, якія выклікаюцца скрытымі або „спячымі" вірусамі. Вучоныя-медыкі мяркуюць, што хутчэй за ўсё гэта новы высокапатагенны вірус, які разбівае іммунную сістэму чалавека і робіць яго практычна безабаронным перад любой інфекцыяй. Сам па сабе ён не з'яўляецца „забойцам", але выконвае функцыі свайго роду „бомбы замаруджанага дзеяння". Пад яго ўплывам (інкубацыйны перыяд можа цягнуцца ад трох месяцаў да 5 год) разбураная імунная сістэма аказваецца не ў стане процібарстваваць нават з такімі хваробамі, як вірусны грып. У выніку любое захворванне працякае крайне цяжка і ў большасці выпадкаў заканчваецца смерцю.

Апрача згубнага СНІД, існуе яшчэ такое паняцце, як „пабочны комплекс СНІД", гэта значыць больш лёгкая форма сіндрома. У ЗША гэтай разнавіднасцю віруса хварэюць 100-150 тысяч чалавек. Гэтыя людзі з'яўляюцца разносчыкамі сапраўднага СНІД, калі іх кроў будзе выкарыстана ў донарскіх мэтах ці ў іншых выпадках прамога кантакту. Ад „пабочнага комплексу" ужо загінула каля тысячы амерыканцаў.

Першыя сігналы аб СНІД з'явіліся ў 1978 годзе, калі ўспышкі гэтай таямнічай хваробы былі зарэгістраваны ў Н'ю-Йорку сярод выхадцаў з выспы Гаіці. Часта яна пачыналася пасля звычайнага пералівання крыві і яе састаўных...

Зноў СНІД заявіў аб сабе ў 1980 годзе, прычым зноў у Н'ю-Йорку. Гэтым разам апрача гаіцянскіх імігрантаў, хвароба ахапіла і карэнных амерыканцаў, у асноўным гомасексуалістаў, наркаманаў, валацугаў. Да лютага 1983 года ёю былі заражаны значныя групы насельніцтва ў 33 штатах ЗША. 49 працэнтаў усіх выпадкаў захворванняў прыйшлося на Н'ю-Йорк.

Сёння (дадзеныя на пачатак кастрычніка 1985 года) на ўліку ў кліниках знаходзіцца 13611 амерыканцаў. Такая афіцыйная статыстыка. У сапраўднасці хворых куды больш . Многія лекары пад націскам пацыентаў, якія баяцца дыскрымінацыі ў асяроддзі, утойваюць іх хваробу. Па ацэнках Джэймса Карэна з Цэнтра па кантролю за небяспечнымі захворваннямі, лік амерыканцаў, параженых вірусам, складае ад 500 да 1 мільёна чалавек. Прычым працэс эпідэміі ідзе па нарастаючай. Ды і гэта не ўсё. У ходзе доследаў гэтага ж цэнтра была ўстаноўлена прамая сувязь паміж павелічэннем захворванняў туберкулёзам і распаўсюджваннем СНІД, які аслабляючы ахоўныя здольнасці арганізма, стварае асабліва спрыяльнае асяроддзе для актывізацыі туберкулёзных бактэрый. У навуковым свеце Захаду ўжо цяпер выказваецца думка, што праз некалькі год СНІД выйдзе ў ЗША на першае месца па колькасці смяротных выпадкаў, пакінуўшы ззаду сардэчна-сасудзістыя і ракавыя захворванні.

Чаму СНІД, як і некаторыя іншыя новыя хваробы, з'яўляюцца ў ЗША і пачынаюць пашырацца перш за ўсё ў гарадах усходняга ўзбярэжжа, у дадзеным выпадку ў Н'ю-Йорку?..

Аб гэтым праз тыдзень.

В.З.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 31

## Паўторнасць непаўторнага

458

Праўдамоўцу меней важна, каб яму верылі, чым ілгуну.

459

Дзіцём праўды часам бывае мана, але ніколі дзіцём маны не бывае праўда.

460

Праўда — ціхасць, мана — крыклівасць.

461

Чалавека, які мае болей адказаў чым пытанняў, не павінны слухаць людзі, якія маюць болей пытанняў, чым адказаў.

462

Малі Бога сёння, каб не мусілі за цябе маліцца людзі заўтра.

463

Дзякуючы нацыянальнай недаразвітасці беларусаў, беларускай кнізе цяжэй існаваць на свеце, чым кнігам іншых народаў.

464

Чалавек, які лічыць, што ён найпрыгажэйшы на свеце, апаганьвае свет.

465

Добра, калі прачытаўшы вартасную кнігу здолееш поўнасцю расказаць яе змест, але яшчэ лепш, калі хаця невялікую дозу яе ідэй патрапіш рэалізаваць у жыцці.

466

Наймацнейшыя ідэі, якія высечаны ў чалавечых сэрцах, а не ў мармурах.

467

Мала разумныя людзі намнога часцей абзываюць дурнямі разумных, чым наадварот.

468

Кніга сама па сабе мёртвы прадмет, ажыўляе яе чытач.

469

Добры верш, гэта іскра, пераўтвораная ў полымя.

470

Дурноты заўсёды парныя, як блізняты. Калі пабачыш такое блізня ў кімсьці, шукай яго пабраціма ў сабе.

471

Каханне захапляе ўсіх, але яго канчатковыя вынікі толькі нямногіх.

472

Амфоры мудрасці папаўняюцца стагоддзямі, бочкі глупстваў — хвілінамі.

473

Хто сёння пачаў маніць часткова, заўтра будзе ілгаць поўнасцю.

Алесь Барскі

З балгарскага цыкла

### РАМОНАК

Тут духмяны наш рамонак
Называюць: лай-лай кучка.
Нелагічна, не натхнёна,
Гэта ж проста: брэша сучка.

І прыдумаў нехта гэтак
Брыдка і нечалавеча.
Не любіў, відаць, ён кветак,
Што і цешаць нас, і лечаць.

Выступаю ў абарону
Мілай кветкі і пытаю:
Што зрабіць, каб больш рамонак
У Балгарыі не лаяў?

Віктар Швед

* * *

шчэ спіш
і кажда думка грыэе долоню муцніэй
ніж ідушчы днём
а вжэ розвідняе пэршэ слово
розпучаным лістком
ты знаеш як подобны дніэ
— і нэ ждэш
нэма тэбэ
в кругу пісні прыроды
омінуло роспятіе
і Воскрэсшого хвалівшы — нэ хваліш
в твоюм домові
— ны радосьці ны пэчалі
забота
— воздухом і хліэбом

З. Сачко

* * *

Перада мной у сочнай пражы поле
Калышацца, як мора, ураджай.
Рой матылькоў у радужнай сваволі
Знайшоў сабе тут аднадзённы рай.

Вось цешацца, што сонца ярка свеціць,
Што іх ласкае дзіўных кветак чар,
І ў светлых хвалях бавяцца, як дзеці,
І папіваюць, як віно, нектар.

Не думаюць аб тым, што заўтра будзе,
Ніхто іх тут надзеяй не маніць,
Іх не цікавіць, ці працуюць людзі,
Ці пагражаюць птушкі з вышыні.

Яны жывуць тут сённяшняй хвілінай,
І ў радасці праводзяць кожны час.
Пад вечар можа дождж няжданна ліне
І зменіць іх у смецце альбо грязь.

Д. Шатыловіч

* * *

На спадарожніцу
ён выбраў сабе
маладую
прыгожую вясну.
А лета
падарыла яму
сонечную кашулю,
вышываную
сінімі васількамі.
Восень —
поўны мяшок
духмяных пладоў,
сабраных
руплівымі рукамі.
А зіма...
Зіма завеяла
цёплы след баразны.
у шалёным танцы
з траскучым марозам.
Збялела ад зайздрасці
за зялёную сукенку
вясны.

Л. Танкевіч



Мал. Міколы Давідзюка.

Залатую рунь
будзіць сонца павеў
песціць яе грудзі
полымем гарэць рабіны
расхілле кусты
памяці
на дубах гойдаюцца
жалуды
стрыжа вушамі конь
— конь шчасця
хоча ўцячы...

Яніна Шостак

### ЯМУ

Ты адзін
у мяне
без цябе
ведай
няма мяне.

Ты адзін
у мяне
без цябе
ведай
я без душы
без жыцця

Люся Анхім

Гісторыі з гэтага свету

### СКАЖУ ВАМ СКАЗ ПРА ГОРА І НЯГОДЫ НАШЫХ НЕБАРАКАЎ АСТРАЎСКІХ, ШТО НАНЯЛІСЯ Ў ТОЙ, ЯК ТАМ... АРАБОЎШЧЫНЕ

**а не ведалі ж, як запакутуюць! Што ж, навука грошы каштуе...**

Абрыдла ім ужо дарэшты тая нішчымніца, тыя пустынныя нібыта смакавітасці, каб яны згарэлі, дый у снах неспакойных іхных сталі ім явіцца застоллі айчынныя, біседы астраўскія, свежаванні перадвялікодныя... І ўсё часцей спакойную ціш ночы прарэзваў нейчы роспачны крык, як быццам бы каму пакуршталі ў вантробах.

Урэшце Толік першы ачомаўся неяк апошнімі сіламі і заеўся назарэз: „Зрабімо сапраўдны абед хоць раз, або каюк нам будзе!". І хаця за багаж у самалёце надта дорага трэ суліць, на тры бульбіны, цыбульку й бутлю наступны раз месца ў яго знайшлося.

Вярнуўшыся назад на сваю экспартную будоўлю, пляшку заўгадзёў добра прыхаваў і давай рыхтаваць неспадзяванку. Узяў тры вазонікі з зямлёю, у кожны з іх загнаў па адной бульбе й паліваў штодня нешкадуючы. Сябрам не хацеў казаць, што пасадзіў, але калі першыя лісточкі няемела выглянулі на свет, раптам бы курч які ўсю кампанію схапіла за горла нечуваная вестка: „Расце ў нас бульба!"

А бульба буяла-расла, як чартапалох які! Хлопцы ўжо прычакаць яе не маглі ды пробавалі падмацаваць яе наконт бульбінак, ды Толік адганяў іх, як сабак: „Чаго ты хочаш ад мае бульбы, паморак ліхі, дай хоць зацвісці ёй, намула! Будзе мне тут мазоліць бульбіны, заморанік ненасытны!". Пільнаваў гэтак Толік, каб не агалапузілі ягонага загоніку. А было ад каго яго захоўваць, бо хаця б Лёнік, ці ж раз ён пралаташыў астраўскія сады? Та ж яго й том празывалі Латош ці Латыш, неяк так.

Але й сяброўскія галовы не пуставалі і тут жа асяніла іх накшая думка. Хоць зведаўшы пра Толікаву бутэлцу, ніяк вынюхаць яе не змаглі, ім таксама штосьці заманулася: „Ці ж мы горшыя за гэтага разумніка? І мы пакажам, што патрапім! Наставім кадушку гуркоў! Як жа ж да бутлі без кіслага гурка засядаць?" І адразу паперлі на базар гурочкаў тых шукаць. І знайшлі, сказаў бы хто, рыхтык як тутэйшыя нашы! Дый кадушку гліняную.

Тады кінулі ўжо хлопцы мацаць Толікаву картоплю й так зайздросна не абляплялі яе заграбушчымі вачыма — яны ж таксама не абы-што рыхтуюць, а як пакажуць, то ажно Толіку тыя слепакі выскачаць напярэймы!

Тым часам бульбачка ўжо зацвіла, але спяліць яе не было ні сілы, ні цярплівасці: „Пакуль цвет паасыпваецца, то жаба нам цыцкі дасць!" — згодна сцвердзілі хлопцы.

Надыходзіла доўгачаканая, святая нядзелька. „От наліваць-мем горлы! І закуска будзе..." Ад самое раніцы поснічалі, маў-

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)




ленне Аляксандра!). Сашка палічыў гэта нават вядзеннем старых кадраў на эшафот! Не ў тым справа, Сашка! Не можаш, аднак, быць святой індыйскай каровай, на якую глядзяць з разяўленым ротам, бо ж і ты шмат чаго нажаваў сваім сялянскім, ці да цябе лепш сказаць, мяшчанскім індывідуалізмам! У вялікай ступені сам ты дапамог рэдукцыі гэтых кадраў, а цяпер плачаш па-дзіцячаму і скардзішся на яснавяльможную Гісторыю, паню на Беларусі! Гавару табе гэта па шчырасці, бо ж страшэнна баліць сэрца, калі бачу, як ты, быццам гэты Нарцыс, прыглядаешся ў люстэрка на сваю вялікасць, фехтуючы моцнымі словамі, нібы шпагаю, забываючы адначасна пра свой патрыятычны абавязак як сына гэтай зямлі ды чалавека з вялікай літары. Адсюль недарэчнасць тваіх поглядаў, якія прывялі цябе да псіхічнага эшафоту ды да дастойнага спагады сцвярджэння:

„Кіраўніцкія асяроддзі беларускага руху — што менавіта праваронілі ды прагаварылі ўпустую, калі аказваецца ўжо, усе мы селі на дне рэгрэсу? Курчымся да памераў грамадскай няважнасці, экзатычнай дзіковінкі або сектантаў, на якіх глядзяць з паблажкаю. Няўжо нікому не шкода жыцця свайго дзеля гэткіх вынікаў? — пытаю самога сябе, але і свайго пакалення пяцідзесяцігодкаў-шасцідзесяцігодкаў (тыя, што адыйшлі ў векавечнае, не мелі падобнай згрызоты, рэчаіснасць была ружавейшая, нават бэгатоўская)".

Ці ж можа сапраўдны патрыёт усумніцца ў сэнсе свайго жыцця, у сэнс ідэалаў, якія ён усё жыццё адстойваў?! А ты ж гэта робіш, як не сорам табе!? Замест аглянуцца назад, ці хтосьці за табою яшчэ йдзе, ды крытычна глянуць на свае ўчынкі, хварэеш то маніяй вялікасці, то зноў комплексам непаўнацэннасці!

Пытаеш, як будуць нас ацэньваць, цябе і мяне, старога Сцяпана Дубіну, якога жыццёвая катастрофа прымусіла пакінуць беларускі рух? Па ўчынках, па ўчынках, Сашка! Ды й не будзе так, што вінаватымі будуць выключна тыя, якія адышлі, але і тыя, якія гэтаму адыходу ў значнай ступені дапамаглі, а й ты таксама ў гэтым не без граху!

Таму цалкам зразумелы мне твой, на гэты раз самакрытычны падыход, што ў сённяшніх дыскусіях ты ўжо не партнёр, а проста кансерватар! Не памыляешся, што на гэты раз падтрымаю цябе канчаткова! Шкада толькі, што пра ўніверсалізм, этычную дактрыну, якая агульнае дабро ставіць вышэй індывідуальнага, нам прыходзіцца гаварыць толькі цяпер, у васьмідзесятыя гады, калі выяўляецца, што акрамя дасягненняў нашага руху ёсць невыбачальныя памылкі і страты, за якія ад-

(Працяг на стар. 5)



Бярэзінскі запаведнік. Зона абсалютнай непарушнасці. Фота М. Жылінскага. (Да артыкула „На запаведных сцежках" на стар. 2).

# ЗНАЎЦА БЕЛАРУСКАГА

Самы аўтарытэтны польскі літаратурна-мастацкі часопіс „Творчасць" у сваім падвойным нумары сёмым і восьмым змясціў вельмі кампетэнтна напісанае Раймундам Каліцкім слова пра вядомага беларускага мастака Пётру Сергіевіча, нядаўнюю смерць якога і мы ўшанавалі асобнай публікацыяй.

Сергіевіч належыць да ліку тых беларускіх жывапісцаў, жыццё і творчасць якіх неразлучны з Вільняй, — сцвярджае Каліцкі. Увесну 1917 года, калі Расія спрабавала быць дэмакратычнай, бядняцкаму сыну Сергіевічаў пашанцавала дастацца ў Петраград і трапіць на кваліфікацыйныя курсы для рабочых. Неяк адбылася экскурсія курсантаў у Расійскі музей, які ашаламіў юнца з Беларусі і выклікаў у ім цягу да жывапісу, праявіў непрадчуванае ім дагэтуль, менавіта талент мастака. У Вільні маладому Сергіевічу ізноў пашанцавала: асабіста сутыкнуўся з выдатным Фердынандам Рушчыцам, які нават купіў сабе адзін з першых малюнкаў адэпта. Стаўшы вольным слухачом мастацкага аддзялення віленскага універсітэта, вучыўся пад кіраўніцтвам Венядзікта Кубіцкага, партрэціста і выхаванца самога вялікага Рэпіна. Знаўцы творчасці Пётры Сергіевіча падкрэсліваюць: найвялікі ўплыў на яго аказалі якраз Рушчыц і Кубіцкі. Канчаў Сергіевіч яшчэ і кракаўскую Акадэмію, дзе быў студэнтам таксама Людаміра СлянДзінскага, аднак гэта не перакрэсліла і не паслабіла тых ранейшых уплываў.

Першую сваю выстаўку работ наладзіў П. Сергіевіч ажно ў 1935 годзе, у Вільні. „Шлях моладзі", за якім ідзе Каліцкі, пісаў: Пётра Сергіевіч гэта, безумоўна, беларускі мастак. З Кракава вывез ён каштоўнае для нас, беларусоў, захапленне палотнамі Яна Матэйкі, мастака, які ў значнай меры пабудаваў вобразнае бачанне палякамі сваёй гісторыі. Несумненна, яго гэта слядамі рушыў і Сергіевіч, ствараючы карціны па гісторыі Беларусі, убудоўваючы наша адчуванне вялікасці ўласнага нацыянальнага мінулага, дапамагаючы беларусам пазбыцца посткаланіяльнай псіхалогіі людзей непаўнацэнных, загледжаных толькі ў чужое, бы парабак у свайго пана! Натхненне чэрпаў ён з беларускай патрыятычнай літаратуры, асабліва з яе паэзіі. Каліцкі дадае, што здарылася тое дзякуючы аднаму віленскаму паляку (шкада, што не называе яго). Ажаніўся Пётра Сергіевіч з польскай паэтэсай Station Станіславай Кадзевічанкай.

Ад 1980 г. Сергіевіч ужо не маляваў, хварэў і меў слабы зрок. Памёр год таму назад, у лістападзе 1984 г.

Чытаючы гэты невялікі нарыс Раймунда Каліцкага, заўважаеш, што ён добра сарыентаваны не толькі ў творчасці памёрлага мастака і ва ўсім тым, што пра яго напісана іншымі, але таксама і ў беларускай культуры наогул. Я падкрэсліваю гэта таму перш за ўсё, што ў польскай культурнай публіцыстыцы на беларускія тэмы ўсё пакутуе даволі значная непісьменнасць, кампетэнтнасць нізкай пробы. Каліцкі ж не зрабіў аніводнай памылкі ў гэтых сваіх дасканала дакументаваных развагах — як пра самога Пётру Сергіевіча, так і пра беларушчыну наогул (нават беларусамоўныя цытаты не перайначаныя!). Прыемна гэта чытаць.

**С. Я.**

# ГАРЧАКІ

(Працяг са стар. 1)

кае насельніцтва, якое вяло тут інтэнсіўную гаспадарку. У значнай меры яе стымуляваў той жа міжнародны шлях. Гэтае насельніцтва амаль цалкам загінула падчас войнаў Вялікага княства Літоўскага спачатку супраць нашэсцяў галіцка-валынскіх князёў, а потым крыжакоў. Слядоў гэтага насельніцтва трэба шукаць на стромкім пагорку Магілкі, што ўзвышаецца на палетку Кабылы. Ужо па знешнім выглядзе пагорка можна меркаваць, што на ім некалі знаходзілася ўмацаванае паселішча. Магчыма, з царквою і таму пазней працягвалася традыцыя хаваць тут нябожчыкаў. Як кажуць тутэйшыя старэйшыя жыхары, на адным з надгробных камянёў быў выбіты крыжык і лік „1710". Не беспадстаўным будзе таксама дапусціць існаванне тут радавога, „фамілійнага" акропаля — магілак Гарчакоў і капліцы на ім.

Хоць род Гарчакоў магутна разросся і ў выніку сямейных падзелаў першапачатковая маёмасць моцна разрадзілася, то ўсё ж яшчэ да II сусветнай вайны тут захаваліся фальваркі ад 50 да 300 гектараў кожны. Найбольшы, 300-гектаровы, належаў Ладысюкам, як па- мясцоваму называлі Вільгельма, Ігната і Тамаша Гарчакоў. Аднак цяжка было б шукаць у іх жыцці якойсьці панскасці ці шляхецкасці — увесь уклад іхнага жыцця, мова, звычаі былі такія ж, як у навакольнага тутэйшага беларускага сялянства, толькі мелі яны болей зямлі, жывіны, збожжа і г.д. Усе фальваркі, якія мелі больш за 50 га ўжыткаў, былі канчаткова распарцэляванымі ў 1944 годзе, а іхныя ўладальнікі ў большасці па сённяшні дзень тут гаспадараць на меншых, 20—40-гектаровых гаспадарках.

У Гарчаках жывуць не толькі нашчадкі колішняй шляхты — Алізяровічы, Віткоўскія, Гарчакі (найбольш), Ігнатовічы, Любецкія, Нятупскія, але таксама і патомкі іхных парабкаў або колішняй вясковай бядоты: Балодкі, Дабрэнькі, Далевічы, Куклікі, Рапухі. Яшчэ да вайны яны любым коштам, часамі неймаверна цяжкой працай і пакутамі, набывалі па загонцу ці моргу зямлі, каб хоць крыху абаперціся на ўласным і не быць цалкам залежным ад шляхты. Напрыклад, Браніслава Куклік прадала апошні дыван, бо не хапала некалькіх злотых да сабранага на пакупку дзвюх дзесяцін зямлі. Толькі праведзеная народнай уладай зямельная рэформа зраўняла іх з людзьмі, і цяпер яны жывуць не горш, а часам і лепш ад тых, на каго парабкавалі іхныя дзяды і бацькі.

Даўніна тут прамаўляе легендамі.. Вось хоць бы пра нейкіх двух трачоў — „кацапаў", г.зн., якія паходзілі з глыбіні Расіі. Яны доўгі час трачавалі ў Гарчаках, г.зн. саматуж рэзалі бярвёны на будаўнічы матэрыял: дылі, дошкі і г.д. Абодва закахаліся ў прыгожую шляхцянку, яна іх таксама пакахала. Аднак бацькі не дазволілі ёй, шляхцянцы, выйсці замуж за аднаго

# АСЕННЯЕ ПАДАРОЖЖА БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ

(Працяг са стар. 1)

быўнае ўражанне на ўдзельніках зрабіў бацюшка сваёй ветлівасцю, сардэчнасцю, шчырай, сяброўскай і, што найважнейшае, беларускай мовай. Многія ўпершыню пачулі беларускае слова з вуснаў духоўнага.

Варта адзначыць, што ў красавіку гэтага года студэнты таксама пабывалі ў Саколцы і таксама тады іх надта сардэчна прынялі гэтыя ж самыя людзі.

На наступны дзень нашага апошняга рэйду, згодна з планам, група маладых беларусаў, падзякаваўшы за гасціну, развіталася з сакольскімі сябрамі і накіравалася ў Ліпіну. На жаль, ніводзін з удзельнікаў рэйду не меў карты, неабходнай у такіх маршрутах. Але, як кажуць, „язык завядзё на канец свету“, і гэты недахоп занадта турыстам не перашкаджаў. Ідучы праз вёскі, моладзь сустракала шмат людзей. Гутаркі з насельніцтвам даказалі ўсім, што ўсё ж-такі тут жыве беларускі народ (Сакольшчына ў большасці заселена беларусамі-каталікамі). Студэнты гутарылі па-беларуску, мясцовыя пераважна „па-просту“. Ніхто з напатканых не лічыў сваёй мовы беларускай. Некаторыя вельмі дзівіліся: як жа гэта, такія маладыя і гавораць „па-просту“? Сумнае і тое, што маладыя, напатканыя намі, ужо не гаварылі „па-просту“, а некаторыя нават абураліся, што хтосьці звяртаецца да іх на такой мове. Сведчыць гэта аб нізкім узроўні нацыянальнай свядомасці на Сакольшчыне. Думаю, аднак, што не час і не месца разводзіцца тут над прычынамі такога становішча.

Пад вечар група турыстаў была ўжо ў Ліпіне. Чакаў нас тут даклад маладога студэнта гісторыі Міколы Ваўранюка пра „Мужыцкую праўду“ і яе аўтара. Варта заўважыць, што гісторыкі дагэтуль не выяснілі, дзе друкавалася газета беларускіх паўстанцаў 1863 года. Вельмі праўдападобна, што якраз тут, на Сакольшчыне, знаходзілася друкарня паўстанцаў. Нельга было не выкарыстаць такой нагоды, што якраз студэнты знаходзіліся на Сакольшчыне, і не пагутарыць на гэтыя тэмы. Даклад выклікаў шмат пытанняў, але час не дазволіў нам на доўгую дыскусію, бо чакаў студэнтаў яшчэ адзін даклад. Адна з удзельніц нашага рэйду пабывала летась на настаўніцкіх курсах у Мінску. Пра свае ўражанні Марылька Базылюк расказала моладзі. Гэта сапраўды быў адзін з цікавейшых момантаў студэнцкага падарожжа. Усе з вялікім захапленнем слухалі весткі з Беларусі, а на канец засыпалі дакладчыка пытаннямі.

Пасля дакладаў пачаўся супольны спеў. Спявалі вядомыя ўжо, ды вывучалі новыя песні. І тут варта адзначыць адзін цікавы факт. Калі ў 1981 г. моладзь амаль што не ведала сваіх песень, а прынамсі не было такіх, якія ўсе супольна маглі б заспяваць, дык цяпер усё выглядала зусім інакш. Беларуская песня заняла такое месца ў сэрцы маладога беларуса, што нельга без яе жыць. Ды і адносіны паміж беларускімі студэнтамі сталі намнога больш салідарныя, сяброўскія, чым гэта было раней. Адно толькі непакоіць, што, на жаль, турысцкія мерапрыемствы беларускага характару ахопліваюць усё яшчэ невялікі працэнт беларускай моладзі.

На наступны дзень студэнты пакінулі Ліпіну і праз гушчары адправіліся ў Чорную Беластоцкую. Крыху паблудзілі, але ўсе цэлыя і здаровыя паселі на цягнік у Беласток. А беларуская песня надалей спадарожнічала нашай групе, хаця было крыху „холадна і голадна“. На некаторых тварах спатканых намі людзей было здзіўленне, на іншых — радасць, часам — насмешлівыя заўвагі ды варожыя позіркі. Але ўсё гэта ніяк не ўстрымае песні, што ляціць ад гарачага маладога беларускага сэрца! Нішто не спыніць магутнай яе сілы! А тым, хто абураецца, ці раз'юшваецца на гукі беларускага слова, усе згодна адкажам... песняй: „Не чужыя варожыя сілы, але ты нас вядзеш да зары“.

Юрка Ляшчынскі



Хата з канца XIX і пачатку XX стагоддзяў у Беняўцах на Дуброўшчыне.
Фота Юркі Трачука.

з гэтых „прастакоў“, і яна памерла з кахання. Трачы моцна сумавалі і ў памяць ёй паставілі на ростанях паміж Горнымі і Дольнымі Гарчакамі вялікі цэментны крыж. У тыя часы цэмент быў страшэнна дарагі, і яны ахвяравалі на гэты помнік усе грошы, якія дагэтуль зарабілі сваёй цяжкой працай. Крыж і сёння стаіць.

Шмат чаго з мінулага можна вычытаць і ў назвах палеткаў і ўрочышчаў: Асавік, Бачно, Выруб, Ганьке, Глінішча, Лісія, Лужок, Лысы Камень, Ляды, Лясанкі, Маргіе, Нябёсы, Перадваротні (усходні канец Горных Гарчакоў), Сасніска, Сучы Роў. Таксама адрэзак старажытнага гасцінца з Саколкі ў Адэльск, які праходзіць праз Гарчакі і іхныя палеткі, мае свае назвы: Адпачывальная Гара, Пся Горка, Пескавая Яма, Трысценюк. Па гэтым гасцінцы яшчэ ў апошнюю вайну праходзілі вялікія масы войска. У чэрвені 1941 г. адступаючую палявую савецкую бальніцу збамбардавалі немцы, загінула многа параненых салдат і медыцынскага персаналу, а таксама некалькі чалавек мясцовых. Падчас акупацыі ў Гарчакі наведваліся партызаны. Яны таксама расправіліся з адной „шляхцянкай“, якая супрацоўнічала з акупантам. На нямецка-польскай вайне 1939 г. загінуў Віктар Касацкі, прымалі ў ёй удзел таксама Рамуальд Гарчак (прабыў у нямецкай няволі 5 год), Казімір Далевіч і інш.

Пасля вайны Гарчакі адразу ўключыліся ў жыццё краіны. Шмат моладзі закончыла розныя сярэднія школы і рассыпалася па ўсёй Польшчы. Анна Алізяровіч закончыла вышэйшую сельскагаспадарчую школу. Крысціна Нарбут — сярэднюю медыцынскую і стала інструменталістам на хірургічным аддзяленні адной з бальніц Беластока. Некалькі чалавек цяпер займаецца ў вышэйшых школах.

Але неабходна падкрэсліць, што з Гарчакоў людзі не ўцякаюць і зямлі не здаюць у ПФЗ. Гэта адзіная ў гміне і адна з нямногіх ва Усходняй Беласточчыне вёска, у якой хутка павялічваецца колькасць насельніцтва. Тут прыбывае многа дзяцей, а ў некаторых сем'ях ад 6 да 11 дзетак. Прытым усе яны дагледжаны і належна выхаваныя. Напрыклад, у сям'і Леанарда Ігнатовіча 11 дзетак і ўсе яны — ўзор і прыклад іншым у паводзінах, працавітасці, пачцівасці. Цяпер двух сыноў служыць у войску і бацькі атрымоўваюць персанальныя падзякі і граматы за ўзорную іх службу.

Цяпер у Гарчаках жыве 151 чалавек, у тым ліку 76 жанчын. Найбольш тут дзяцей і моладзі да 18 год — 62 чалавекі; ва ўзросце 18-44 гады — 43 чалавекі, ад 45 да 65 гадоў — 34 чалавекі і звыш 65 гадоў — 12 чалавек. Гаспадараць яны на 418 га ўжыткаў, у якіх 356 га ворыва, лугоў — 30 га, пашы — 30 га і 123 га лесу. У 1985 г. засявалі пшаніцы 11 га, жыта — 85 га, аўсу — 85 га, ячменю — 20 га.

(Працяг на стар. 6)




(Працяг са стар. 4)

помсціць нам з лішкам ясна-вяльможная пані Гісторыя!

З павагай Ваш

**Сцяпан Дубіна**

**Ад аўтара.** Сцяпане Дубіна, нарэшце я зразумеў, што ты блытаеш мяне з кімсьці іншым — я ж ніколі не быў абраным у які-колечы рашаючы галоўны орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства! Таму мой уплыў на дзейнасць таварыства аж па сёння не ёсць значнейшым ад уплыву кожнага рухавейшага актывіста ў нізах. Якая ж тады з мяне *„індыйская карова“* або *„прамінэнт“*? Адначасова я з разуменнем прымаю ў свой адрас нават з'едліва-крытычнае ад цябе, ясная рэч, апроч таго, што ёсць вынікам гэтай тваёй памылкі. Бо я, як мне здаецца, зразумеў і твой гнеў і боль, Сцяпане Дубіна, сам маючы за плячыма не саладзейшы лёс, праўда, не настолькі горкі, каб назусім *„пакінуць беларускі рух“* (як давялося табе).

**Аляксандр Анташэвіч**

## ЧАТЫРЫ І ТРЫЦЦАЦЬ ГАДОЎ Я З ТАБОЮ

Сардэчна, як заўсёды, праз колькі ўжо гадоў майго і твайго жыцця, вітаю цябе, мая дарагая „Ніва“! Прайшлі мы шлях цяжкі, але з надзеяй у сэрцы, з аптымізмам і верай, што толькі так здолеем крочыць далей. Словы, якія я накіраваў у твой адрас у апошні час, былі часам вострыя, але ў справах важкіх яны неабходныя. Прабач за горыч маіх слоў. Глянь, прашу ветліва, на тое, што веяла спакоем і цішынёю праз усе мінулыя гады. Думаю, што і цяпер ты адчуваеш цяпло маіх слоў і майго сэрца?

Далекавата мы жывем, на двух далёкіх краях краіны. Ты — ля мяжы і я — ля мяжы. Ты на ўсходзе, я на захадзе. Табе шуміць зялёны бор і вецер нясе пах жывічны ад Белавежскай пушчы. Мне марскія хвалі шумяць і вецер марскі то нясе песню сваю шматгадовую, то дзьме грозна. У цябе зелень нівы і лясоў, у мяне — сіняя бясконцая даль. І толькі жыццё пульсуе таксама, з тым жа адчуваннем радасці і сяброўства. Прайшоў я з табою немалы шлях і веру, што і далей пойдзем з надзеяй у слушную нашу справу, беларускую справу. Застанься ў здароўі, шануй сябе! І час ад часу напішы, аб чым шуміць пушча, бо словы твае мне патрэбны.

У верасні 1985 года мінула чацвёртая гадавіна ад надрукавання ў „Ніве“ першага артыкула „Якая „Ніва“. А знаёмства маё з табою і сяброўства ідзе ад першага твайго нумара з 1956 г. Твой назаўсёды

**Рышард Бутайла,**
Свінауйсце

---

**Калектыў „Нівы“ глыбока смуткуе з прычыны смерці аўтара і сябра**

**Юркі ГЕНІУША**

**і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

---

(Працяг са стар. 3)

# ГІСТОРЫІ З ГЭТАГА СВЕТУ

ляў, потым лепей засмакуе. Ды ці ж дзіва, што здорава кідала іх у голад. „Хоць раз пад'ямо як сабе!" — узрадаваўся Толік. Склікаў усіх да сябе й пачаліся выкапкі.

Якое ж было іхнае здзіўленне, калі пад збуялым, магутным карчом, вырваным Толікавай рукою, загойдаліся ажно дзве малыя гарошынкі. Толік адразу пабялеў, а Лёнік заскрыгітаў: „Э, партач ты, хто ж гэтак выцягвае бульбу, каб це!..." Падыйшоў станоўчым крокам і ўшпіліў у вазон сваю зашмальцаваную пецярню. Корпаўся ў ім добрую хвіліну ды ўрэшце не вытрымаўшы высыпаў усё на падлогу. „А каб ты пад зямлю праваліласся!" — заскуголіў, як быццам штосьці абарвалася ў яго грудзях, і давай выцягваць рэшту карчоў.

Толік прысеў, ашчаперыўшы невядома нашто свой корч, і нават не зірнуў у той бок. Яму было ўсё ясна. „От дурная булава, лепш з'еў бы тыя бульбіны, а так — як у гной усадзіў. І трэба ж было, што рука мне тады не высахла, не абвяла..." — дакараў сябе.

Ды тут жа нервова вышчарыўся па-воўчаму Лёнік і ўзяўся суцяшаць гаротніка: „Не бядуй, Толічак, мы яшчэ маем неспадзяванку, угані што?" Але ён толькі ўталопіў у нешта свой блудны позірк, быццам ужо той свет убачыўшы. „Гурочкі, Толічак, маласольныя гурочкі чакаюць нас, цэлая бочачка". І ўся кампанія, ўхапіўшы й падкідаючы небараку, яшчэ ўсё ж з гэтым няшчасным карчом у руцэ, падалася да кадушкі. Там Лёнік цырыманіяльна адлажыў камень, затым талерку, і апусціў лакомлівую руку ў расол, гурочкі лавіць. Ды ў гэты момант з кадушкі шыбануў такі смурод, што Лёнік бы апёкшыся, адскочыў заенчыўшы: „А халеры ж, чым я руку загадзіў". Схапіў злосна свой французскі ключ і як ляснуў па кадушцы, то ано пырскі пайшлі па сценах а спенены, як піва, шчымлівы расол заліў усю падлогу (папашаравалі потым яе, ды і так смурод уеўся ў дошкі й засеў у іх надоўга).

Так то прамахнуліся нашыя суседзі й бач, каторы ўжо год у хаце сядзяць, нікуды не збіраюцца... А ці раз я ім гаварыў: „Тут зямля такая, там накшая". Ды ці ж паслухаюць, ветраюць па белым свеце, шукаюць, чаго не згубілі...

**Яраслаў Яновіч**

## НА ЗДАРОЎЕ

Сёлета ў **Нараўчанскай** гміне план зборкі на Нацыянальны фонд аховы здароўя ўжо перавыкананы. Да 25 кастрычніка сабрана звыш 90 тысяч злотых (план быў 80 тысяч злотых). Найлепш выканалі свой грамадзянскі абавязак сяляне са **Скупава** (таксама было і ў мінулым годзе), **Янова, Альхоўкі, Масева I, Плянты, Ляўкова, Ахрымоў, Ляшукоў, Тарнопаля і Семяноўкі. (яц)**



У гэтым доме жыве адзін з Гарчакоў.

# ГАРЧАКІ

(Працяг са стар 5)

грэчкі — 23 га, мяшанкі — 12 га, садзілі 32 га бульбы; гадавалі: 191 штуку быдла (у тым ліку 92 каровы), 158 свіней (у тым ліку 23 свінаматкі), 126 авечак і толькі 14 коней.

Так, у Гарчаках колішняя шляхецкая ўлюбёнасць у коней цалкам загасла, затое ўсе запалалі замілаваннем да сельскагаспадарчых машын. Тут 27 гаспадарак і толькі ў адной няма трактара, затое ёсць адна, у якой працуе аж тры трактары! Найбольш прадукцыйная гаспадарка ў Тадэуша Гарчака, які ў 1984 г. прадаў дзяржаве прадукцыі на 1 мільён 407 тысяч злотых (з 34 га ўжыткаў), ён, мабыць, адзіны селянін на Беласточчыне, які мае ўласны камбайн „Гігант". Добра гаспадарыць тут таксама Станіслаў Нарбут (з 19-гектаровай гаспадаркі прадаў у мінулым годзе прадукцыі на 659 тыс. зл.), Генрык Куклік (з 11 га прадукцыя на 384 тыс. зл.) і шэраг іншых. Словам, нашчадкі і колішняй шляхты, і колішняй вясковай бядоты — сёння актыўны, здаровы працоўны люд. Гэта ж яны адзіныя ў Шудзялаўскай гміне ў грамадскім пачыне з выдатнай дапамогай дзяржавы праклалі водаправод! Але бядуюць, што няма ў іхнай мясцовасці ні злеўні малака, ні школы, ні крамы — за ўсім мусяць падавацца за 3 км у вёску Сухінічы. Чаму? Просяць яны ў гмінных улад таксама дапамогі ў пабудове добрай дарогі праз абедзве вёскі з даездам да шашы Саколка—Бабікі, бо шкода і людзей, і жывёлы, і машын, якія топяцца ды нішчэюць у балоцістай топелі, якая тут лічыцца дарогай.

**М. Гайдук**
Фота аўтара

## БЛІЖЭЙ ДА ТЭЛЕФОНА

Жыхары **Бярнацкага Маста** ў Нараўчанскай гміне не мелі тэлефона ў сваёй вёсцы. Каб пазваніць, напрыклад, па хуткую дапамогу або ў пажарную ахову, неабходна было ехаць за тры кіламетры ў Падляўкова.

Сёлета бярначчане ў грамадскім пачыне выкапалі роў даўжынёю ў 3 км, у якім праклалі тэлефонны провад (будзе гэта падземная лінія). Тэлефонным апаратам можна будзе карыстацца ўжо ў снежні бягучага года.

У канцы гэтага года ўпершыню можна будзе пазваніць па тэлефоне з **Баб'яй Гары.** Спамянутая вёска атрымае паветраную тэлефонную лінію. Тады не трэба будзе хадзіць на пошту ў Семяноўку. (яц)

## УСЁ ДЛЯ КУЛЬТУРЫ

У **Нараўчанскай** гміне ёсць прыгожыя клубы і святліцы ў Скупаве, Семяноўцы, Міклашэве, Старым Ляўкове і Ляшуках. У мінулым годзе распачалі пабудову святліцы ў **Тарнопалі.** Выкарысталі ліквідаваны будынак у Нараўцы. У спамянутай вёсцы зараз пражывае больш 150 чалавек, сярод іх нямала моладзі. Тамашнім жыхарам неабходна святліца для культурнай дзейнасці. Цяпер будынак ужо пад дахам з этэрніту. Ёсць дошкі на пабудову падлогі. Будзе прыгожая стружкавая пліта, каб абабіць сцены.

— Зараз рамантуюць печкі і падлогі ў гмінным асяродку культуры ў **Нараўцы.** Неўзабаве будуць маляваць зал і ГОК будзе гатовы для культурных мерапрыемстваў, — кажа начальнік гміны **Мікалай Павільч.**

Ужо заканчваюць аднаўленне клубных памяшканняў у **Міклашэве.** Тут быў зроблены невялікі рамонт і маляванне.

У клубе прэсы і кніжкі ў **Старым Ляўкове** зрабілі другі ўваход і сходы. Больш месца адвялі для тамашняй даволі вялікай публічнай бібліятэкі.

Яшчэ ў бягучым годзе будзе перададзена ў карыстанне немалая святліца ў **Масеве.** Да заканчэння рамонту асталося нямнога. Яшчэ майстры пабудуюць печкі, каб зімою было тут цёпла, і памалююць сцены ў сярэдзіне.

Варта дадаць, што ў Нараўчанскай гміне актыўна працуюць шматлікія мастацкія калектывы, між іншым, у Семяноўцы (дзейнічае тут хор, які вядзе **Ян Шыманюк),** у Міклашэве (хор працуе пад кіраўніцтвам **Надзі Каліноўскай),** у Нараўцы (тут рукаводзяць **Вольга Закройшчык** і **Валянціна Панькоўская)** і ў Старым Ляўкове (хор „Цаглінкі" вядзе ад нядаўна настаўнік **Васіль Целушэцкі).** (Я.Ц.)

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Калі ёсць розум, то і шчасце знойдзецца.

*

Меней гавары — болей рабі.

*

Колас не спее, калі сонца не грэе.




# СПЫНЕНЫ СОН

Дзмітрыя Макарава, начальніка раённага аддзялення НКВД у Высокім, разбудзіў тэлефонны званок. Уставаць яму не хацелася. Толькі пасля поўначы вярнуўся ён з паездкі ў вёску Аўгустынку, дзе надарэмна шукалі яны нямецкіх парашутыстаў. Ніхто з мясцовага насельніцтва іх не бачыў.

Была субота, 21 чэрвеня 1941 года. У запасе аставаўся яшчэ адзін выхадны дзень. Дзмітры Матвеевіч спадзяваўся даўжэй паспаць і адпачыць. А тут раптам гэты тэлефон! Трубку ўзяла жонка, Марыя Аляксандраўна.

— Дзіма, гэта табе, звоняць з райаддзела! — далікатна, але заадно і трывожна дакранулася яна да мужавага пляча. — Сказалі разбудзіць цябе.

Дзмітрый Матвеевіч, пазяхнуўшы сонна, працёр кулакамі вочы, пякучыя ад стомы, і тады, не скрываючы незадавальнення, узяў тэлефонную трубку з рук сваёй жонкі.

— Чаго там табе трэба сярод ночы? — запытаў прыдзірлівым тонам. У адказ пачуў:

— Таварыш начальнік, дакладвае дзяжурны па райаддзелу НКВД, — і тут ён назваў сваё прозвішча.

— Ведаю, што гэта ты! — перапыніў яго Дзмітры Макараў. — Але чаму ты мне спаць не даеш? Яшчэ ж ноч цёмная!

— Ніяк не, таварыш начальнік! — адказаў яму дзяжурны. — Ужо ранак, без 15 чатыры. І толькі што над Высокім праляцела вялікая група самалётаў-бамбардзіроўшчыкаў.

— Што?! — не вытрымаў начальнік райаддзела НКВД. — Якія там яшчэ самалёты!?

— Бамбардзіроўшчыкі! — трывожна паўтарыў дзяжурны. — Яны паявіліся ад Буга, ад дзяржаўнай граніцы і ляцяць на ўсход, у напрамку Мінска. Мяркуючы па гуку, гэта нямецкія самалёты.

„ Што за чартоўская правакацыя! — падумаў Дзмітры Макараў, мамантальна прыходзячы ў сябе. — Толькі не паддавацца правакацыі! — паўтарыў сабе добра завучаную дырэктыву, якая ў апошніх тыднях мая і чэрвеня 1941 года пастаянна паўтаралася на шматлікіх інструктажных нарадах, сходах і пасяджэннях. — Можа адразу далажыць у Брэст, у абласное аддзяленне?" — прыкінуў у думках і адразу рашыў, што спачатку яму неабходна самому разабрацца толкам, што дзеецца на даверанай тэрыторыі.

— Вы мяне зразумелі? — занепакоіўся дзяжурны доўгім маўчаннем свайго начальніка.

— Так, я цябе добра зразумеў, — адказаў яму Дзмітры Макараў, а голас яго гучаў ужо роўна і спакойна, як заўсёды ў час выконвання адказных службовых абавязкаў.

— Што мне рабіць? — паці-

# НАВУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў 1985|86 г.

**(СТАТЫСТЫЧНАЯ ДАВЕДКА)**

Паводле афіцыйнай школьнай статыстыкі, у бягучым 1985/86 годзе беларуская мова вывучаецца 4275 вучнямі пачатковых і сярэдніх школ Беласточчыны ў параўнанні з 4268 вучнямі ў мінулым 1984/85 г. Такім чынам агульны абсяг навучання роднай мовы амаль не змяніўся.

Колькасць навучэнцаў агульнаадукацыйных ліцэяў з беларускай мовай навучання ў 1985/86 г. складае 590, г.зн. на 10 вучняў менш, чым у мінулым годзе, у тым ліку ў Бельскім ліцэі 356 (—8) і ў Гайнаўскім 234 (—2).

Нязначна змянілася сетка пачатковых школ з прадметам беларускай мовы. З пачаткам бягучага года пачалося яе навучанне ў Астраўку і адноўлена ў Іванках. Самастойная ў мінулым годзе школа ў Плёсках была рэарганізавана ў філіяльны пункт храбалоўскай школы. Агульны лік пачатковых школ з прадметам беларускай мовы складае зараз 50 у параўнанні з 49 у мінулым школьным годзе*. У рамках гэтых самастойных школ існуюць 4 філіяльныя пункты, у якіх адбываюцца заняткі па беларускай мове (Паўлы, Тыневічы Вялікія, Плёскі і Пілікі).

Агульная колькасць вучняў пачатковых школ, якія вывучаюць беларускую мову, павялічылася на 17 і ў 1985/86 г. складае 3685, у тым ліку ў II класах 480, у III — 502, IV — 566, V — 547, VI — 548, VII — 523 і VIII класах — 519. Становішча ў паасобных школах прадстаўлена ў табліцы, у якой у рубрыцы „А“ падаецца колькасць вучняў, якія навучаюцца беларускай мове, а ў рубрыцы „Б“ — іх удзел (у працэнтах) у агульнай колькасці вучняў дадзенай школы без першага класа.

Як сведчаць дадзеныя, прадстаўленыя ў табліцы, становішча навучання беларускай мовы ў паасобных школах (не лічачы філіялаў) надалей выказвала разнастайныя тэндэнцыі, аднак у бягучым школьным годзе яны больш пазітыўныя, чым у мінулым. Так, у 11 школах паказчык навучання беларускай мовы (гл. рубрыку „Б“) быў стабільны, у 27 школах палепшыўся і толькі ў 9 — пагоршыўся. Асабліва значны зрух на лепшае наступіў у Чыжах, Старым Ляўкове, Саках, Малешах, Грабаўцы, Рыбалах, Старыне, Нурцы, Нараўцы і Зубрах.

Лік школ, у якіх беларускую мову вывучае прынамсі 50% вучняў, складае зараз 36, сярод іх у 23 школах яе навучаннем ахоплена звыш 80% вучняў.

| Школа | 1984/85 А | 1984/85 Б | 1985/86 А | 1985/86 Б |
|---|---|---|---|---|
| Бельск № 3 | 536 | 100 | 587 | 100 |
| Чыжы | 195 | 94 | 216 | 100 |
| — філія ў Тыневічах Влк. | 19 | 100 | 15 | 100 |
| " ў Моры | 14 | 100 | — | — |
| Дубічы Царкоўныя | 105 | 99 | 105 | 100 |
| Пашкоўшчына | 67 | 98 | 70 | 100 |
| Ласінка | 73 | 100 | 68 | 100 |
| Дубяжын | 57 | 100 | 58 | 100 |
| Крывец | 46 | 96 | 48 | 100 |
| Стары Корнін | 50 | 100 | 40 | 100 |
| Аўгустова | 44 | 100 | 36 | 100 |
| Клейнікі | 210 | 98 | 171 | 99 |
| Махнатае | 67 | 98 | 63 | 98 |
| Барысаўка | 38 | 100 | 33 | 97 |
| Крывая | 30 | 97 | 30 | 97 |
| Орля | 232 | 98 | 214 | 96 |
| Пасынкі | 101 | 95 | 96 | 95 |
| — філія ў Кожыне | 7 | 87 | — | — |
| Новы Корнін | 55 | 95 | 53 | 95 |
| Курашава | 96 | 92 | 68 | 93 |
| Арэшкава | 83 | 87 | 77 | 89 |
| Дубіны | 127 | 90 | 121 | 87 |
| Ляшукі | 68 | 83 | 66 | 86 |
| Старое Ляўкова | 93 | 70 | 115 | 85 |
| Волька Нурэцкая | 56 | 86 | 53 | 82 |
| Новае Беразова | 58 | 82 | 58 | 81 |
| Маліннікі | 89 | 82 | 90 | 79 |
| — філія ў Вольцы Выг. | 13 | 100 | — | — |
| Дашы | 63 | 74 | 60 | 78 |
| Трасцянка | 63 | 75 | 62 | 76 |
| Янова | 29 | 73 | 55 | 74 |
| Храбалы | 69 | 71 | 83 | 73 |
| — філія ў Плёсках** | 22 | 79 | 6 | 100 |
| Райск | 24 | 67 | 24 | 71 |
| Семяноўка | 57 | 67 | 53 | 70 |
| Сакі | 43 | 61 | 50 | 69 |
| Малешы | 14 | 30 | 23 | 65 |
| Грабавец | 30 | 45 | 40 | 59 |
| Рыбалы | 70 | 52 | 69 | 58 |
| — філія ў Паўлах | 11 | 69 | 7 | 50 |
| Палічная | 37 | 51 | 39 | 55 |
| Старына | 12 | 37 | 12 | 50 |
| Нурэц | 43 | 38 | 52 | 49 |
| Краснае Сяло | 34 | 54 | 31 | 49 |
| Рагачы | 29 | 45 | 30 | 45 |
| Нараўка | 74 | 30 | 83 | 37 |
| Зубры | 14 | 26 | 15 | 33 |
| Іванкі | — | — | 11 | 24 |
| Нарва | 47 | 23 | 52 | 23 |
| Гайнаўка (№ 3) | 35 | 21 | 39 | 23 |
| Кляшчэлі | 28 | 17 | 34 | 20 |
| Клюкавічы | 14 | 13 | 16 | 17 |
| Гайнаўка (№ 2) | 136 | 16 | 126 | 13 |
| Астравак | — | — | 16 | 11 |
| Гайнаўка (№ 1) | 49 | 5 | 40 | 4 |
| Бельск (№ 4) — філія ў Піліках | 19*** | 3 | 6 | 50 |
| Агулам | 3668 | | 3685 | |

*) гл. „Ніва“, 9 XII 1984, № 50.
**) у 1984/85 г. самастойная школа.
***) дадзеныя датычаць Бельскай гмінной школы, рэарганізаванай сёлета ў гарадскую школу № 4 з філіяй у Піліках.

(Ганарар на музей). **(тур)**

кавіўся дзяжурны.

— Аб'яўляй трывогу! — загадаў начальнік НКВД. — Хай неадкладна збіраюцца ў нашым адзяленні. Я таксама зараз там буду.

Ён адклаў трубку і яшчэ хвіліну стаяў ля тэлефона, быццам прыкаваны да гэтай чорнай скрыначкі з дзівоснымі металічнымі лапкамі, якія трымалі ў сваіх абдымках тэлефонную трубку, як казачны чорт грэшную душу на вілах. „Значыць, вайна!?“ — ён ціха выдушыў з сябе гэтыя страшэнныя словы і тут жа адкінуў іх ад сябе, як штосьці брыдкае і агіднае, ад чаго рукі трасуцца і сэрца напаўняецца боязю.

— Дзіма, што здарылася? — падыйшла да яго жонка.

Ажаніліся яны параўнальна нядаўна, не паспелі яшчэ як след нацешыцца ўласным шчасцем, нават дзяцей не дачакаліся, жылі шчаслівай парай. Марыя Аляксандраўна кожны дзень і на кожным кроку адчувала важнасць мужавай пасады ў гэтым раённым цэнтры.

Я думкамі вандраваў па маленькім раённым мястэчку Высокалітоўску, да якога прыналежала таксама і мая родная вёска Вулька Нурэцкая. Незадоўга да гітлераўскай агрэсіі мне таксама давялося ўпершыню пабываць у гэтым мястэчку. Я тады вучыўся ў другім класе пачатковай школы і часта даручалі мне выступаць з мастацкім чытаннем вершаў. І таму з групай нашых школьнікаў я прадстаўляў сваю вёску на раённых спаборніцтвах за першынство ў самадзейным мастацкім руху. Памятаю, што тады я страшэнна хваляваўся і адначасова цешыўся гэтым вялікім шчасцем, што менавіта мне давялося выступаць на раённай сцэне.

„І што ж цяпер будзе? — гадае Пятрок. — Яму ж ужо стукнуў дзевяты гадок. Пара бы вучыцца, дык школаў няма, а панскія школы не вучаць дарма...“ — гаварыў я голасна і аднастайна добра завучаны верш. Мне, праўда, у 1941 годзе яшчэ не „стукнуў дзевяты“ гадок, бо ў школу пайшоў я на шостым годзе свайго басаногага жыцця, так хацелася мне вучыцца. Да гэтага часу я ўжо паспеў засвоіць цэлую рускую азбуку і ўмеў даволі добра чытаць. Ніхто тады дакладна не правяраў майго года нараджэння.

У суботу, 21 чэрвеня 1941 года, калі Дзмітрый Макараў ганяўся па Аўгустынскіх хутарах (гэта ў пяці кіламетрах ад маёй Вулькі Нурэцкай), я вяртаўся са школы з пасведчаннем у руках аб заканчэнні другога класа пачатковай школы і з дыпломам выдатніка. Ішоў дамоў з надзеяй, што пасля кароткіх двухмесячных канікулаў прадоўжу навуку ў трэцім класе, а калісьці бацькі пашлюць мяне, марыў я, у Высокае, у сярэднюю школу, куды кіраваўся мой старэйшы брат Валодзя.

Божа мой, такія мары ўпершыню тады паяўляліся ў сялянскіх дзяцей. Выраслі яны на ўраджайнай глебе Савецкай улады. І гэта ўсё абарвалася надосвітку, у нядзелю, 22 чэрвеня

(Працяг на стар. 8)




Дайшлі мы ўжо і да шчасця „падабцасавага“. Пані-жонка ў хаце гэтак заездзіла свайго мужычка, што той і не пікне. Толькі адна думка распірае яго заўчасна палыселы чэрап: „Чым тут яшчэ дагадзіць маёй каралеве?“ Напружвае не толькі думку, але і жылы. Кожны зароблены грошык — ёй. На сяброў крыжык паставіў даўно. А скачкі ўбок і ў марах не нараджаюцца. Дык жа малачка яшчэ не купіў. Свежанькіх булачак пашукаць трэба. Ды абед нарыхтаваць, па чыстую бялізну ў пральню збегаць. І бегае, дабывае. А тут патрэбам канца няма. Бо ў яе сукенка нямодная, мэбля ў хаце старая. Ужо і язык са стомы вывесіў, павярнуць ім няма сілы. Толькі ў вачах тая ж адданасць. Гоп! — пад абцасік. Цёпленька, добра. Шчаслівы.

А ну вас, з гэткім шчасцем! Нявольніцкае яно. Якая тут раўнавага сіл? У пані і слугі яе быць не можа. Пад зманлівым шыльдам крыецца звычайнае рабства. І тым, што ўжо гатовы аб'явіць вярбоўку ў клубы „Пад абцасікам“, я супрацьстаўляю лозунг: „Падабцасавыя шчаслiўцы, рвіце свае путы, у вас нічога іншага не засталося!“

**Сапраўдны мужчына**

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

нальнасці, чуў я ў сваім жыцці вельмі часта. І выказванні гэтыя мелі заўсёды выразна адмоўны характар. Для прыкладу, чуў я такія словы: „Dlaczego ten twój rodak nie przyznaje się do swej narodowości?“, „Czy temu twojemu ziomkowi wydaje się, że my, Polacy, będziemy go szanować, gdy on będzie demonstracyjnie podkreślał swoją polskość?“, „Ty powiedz mu jak Białorusin Białorusinowi, żeby się nie wygłupiał i przyznawał się do swej narodowości“.

І з другога боку чуў я ад многіх палякаў пахвальныя ацэнкі ў адрас тых беларусаў, якія прызнаюцца да сваёй нацыянальнасці. Параўнаўча нядаўна пачуў я ад паляка, прафесара Варшаўскага універсітэта Антонія Сэмчука вельмі пахвальную апінію аб прафесары таго ж універсітэта — беларусу Ігары Цімафеюку, які прызнаецца да свайго беларускага паходжання.

Аж жах агортвае чалавека, калі глядзіш на такога індывідыума з-пад Гайнаўкі ці Бельска, які як агню баіцца сваёй беларускасці. Такі тып не разумее, што, прызнаючыся да сваёй нацыянальнасці, карыстаўся б пашанай свайго асяроддзя, тады, калі выракаючыся яе, заслугоўвае пагарды.

**Алесь Барскі**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:**

**Юрка, бабуля Юркі; Сярожа, Коля, Ліда, Рыта, Саша — трэцякласнікі.**

*Раніца. Юрка ляжыць у ложку. За сталом сядзіць бабуля і чытае кнігу.*

Юрка. Нешта горла баліць... *(Кашляе.)* Асабліва, калі кашляю. *(Зноў кашляе.)*

*Бабуля.* Толькі гэтага не хапае. Бацькі паехалі ў горад, мы засталіся з табой, Юрка, удваіх. *(Падыходзіць да Юркі, мацае лоб.)* Ці няма ў цябе тэмпературы? *(Мацае свой лоб, затым — Юркаў).* Юрка, у цябе гарачы лоб... Не ідзі сёння ў школу, не трэба рызыкаваць. Ды і надвор'е дрэннае. Усю ноч ліў дождж. Паляжы ў пасцелі.

Юрка. Я таксама так думаю — не трэба рызыкаваць... *(Ціха, каб не чула бабуля.)* Да таго ж мяне сёння чакае такая непрыемнасць — кантрольная па арыфметыцы! *(Кашляе мацней.)*

Бабуля. Ой! Ой! Які небяспечны кашаль! Накрыйся лепш коўдрай. Зараз я дам табе шклянку гарачага малака з пітной содай.

Юрка *(пазірае на гадзіннік).* Бабуля, пакліч Сярожу, бо ён хутка ў школу пойдзе.

Бабуля. Зараз, Юрачка. *(Бярэ ключ ад дзвярэй, выходзіць.)*

*Юрка ў піжаме саскаквае з ложка, робіць гімнастычныя рухі. Падбягае да крэдэнса, адчыняе, шукае чаго-небудзь салодкага. Чуе, як бабуля адмыкае дзверы, хуценька кладзецца ў пасцель, кашляе.*

*Уваходзіць* *Бабуля і Сярожа.*

Бабуля. Ты чуеш, Сярожа, як ён кашляе. Яму нельга ў ніякім выпадку ісці ў школу. *(Ставіць на электраплітку кубак з малаком).*

**Юрка** *(да Сярожы).* Не пашанцавала мне. Учора ўсе мы хадзілі праведаць Лену, а сёння я сам захварэў. *(Кашляе.)*

**Сярожа.** Дык мне сказаць на ўроку, што...

Юрка. Што я *(кашляе)* моцна прастудзіўся. Прыйдзіце сёння пасля ўрокаў мяне праведаць... *(Кашляе.)*

Сярожа. Я скажу. Шкада, што цябе не будзе, прапусціш кантрольную па арыфметыцы.

**РЫХТУЕМСЯ ДА ЁЛКІ**

# ПРАВЕДАЛІ

*Юрка заходзіцца ад кашлю.*

Бабуля. Вось, Сярожа, якая непрыемнасць. Бацька і маці паехалі ў горад, а ён ні з таго, ні з сяго захварэў. *(Праводзіць Сярожу да дзвярэй.)* Мне, Сярожа, трэба схадзіць у краму. І ёсць яшчэ шмат іншых спраў. Я пакіну ключ у вас.

Сярожа. Добра. *(Выходзіць.)*

Бабуля *(да Юркі).* Мама мне сказала заплаціць рахункі на пошце. Трэба яшчэ дастаць для цябе ліпавы мёд — гэта найлепшы сродак ад кашлю. Потым зварыць курыны булён, кампот. Піць будзеш толькі цёплае. *(Падносіць яму кубак гарачага малака, ставіць на крэсла ля ложка, набірае лыжачкай са слоіка крышку пітной соды і сыпле ў кубак, мяшае.)* Пі, пі, гэта не вельмі смачна, затое карысна для цябе. Глядзі, Юрачка, не саскаквай басанож з ложка, нікому не адчыняй дзверы, а калі дзеці прыйдуць цябе праведаць, то Сярожа сам адчыніць, я ў іх ключ пакіну. *(Ставіць ля ложка другое крэсла.)* На гэтым крэсле я пастаўлю табе снеданне. *(Ставіць на крэсла некалькі талерачак з ежай. Адзяваецца, бярэ сумку, абанентныя кніжачкі.)* Выпі малака з содай, пакуль яно гарачае. Ну, я пайшла. (Выходзіць.)

*Юрка саскаквае з ложка, робіць гімнастычныя рухі, апранаецца, хуценька хапае з талерачак ежу і глытае. Бярэ з крэсла кубак малака і вылівае ў каструльку, якая стаіць на століку. Ставіць пусты кубак на крэсла ля ложка. Падбягае да стала, дастае з шуфлядкі кашалёчак, кладзе сабе ў кішэнь. Сядае за стол, піша хуценька на лістку паперы. Кладзе напісаны лісток на спінку крэсла так, каб адразу можна было яго заўважыць. Выходзіць з пакоя, зачыніўшы за сабою дзверы.*

*На сцэне зацямненне. Паўза. Чуваць голас дыктара: „Мінула некалькі гадзін. Закончыліся заняткі першай змены. Ні Юрка, ні бабуля не вярнуліся дамоў". Дыктар змаўкае. На сцэне зноў робіцца відна. Чуваць, як адмыкаюць дзверы. На пальчыках уваходзяць Сярожа, Коля, Рыта, Ліда, Саша.*

Сярожа. Хворы спіць...

*Дзеці падыходзяць да ложка. Бачаць: Юркі няма. Заўважаюць лісток паперы на спінцы крэсла.*

Коля *(бярэ лісток у рукі, чытае ўголас).* „Бабуля. я выпіў

(Працяг на стар. 10)



На ўроку ў чацвертым класе ў школе № 3 ў Бельску.

У кабінеце беларускай мовы ўрок вядзе настаўнік Сцяпан Бурыла. У гэтай школе ўсе вучні выпісваюць „Ніву" з „Зоркай" і карыстаюцца ё- таксама на ўроках.

Мне давялося трапіць да дзяцей на ўрок, калі якраз прынеслі ў клас 19 нумараў свежанькай, яшчэ пахнучай фарбай „Нівы". З гэтай нагоды мы пагаварылі аб нашай газеце. Дзеці выказваліся аб тым, што найбольш ахвотна чытаюць у „Зорцы", і абяцалі пісаць пісьмы да „Зоркі".

Фота Я. Чэрнякевіч.

**ВІКТАР ШВЕД**




## БАБУЛІ ДАРУЧЭННІ

**У хаце даручэнне**
**Дае бабуля дзеду:**
**— Пільнуй унука Жэню,**
**Гарэзу, непаседу.**

**А ўнука дарагога**
**Бабуля надта просіць:**
**— Не муч ты ног старога,**
**Што ледзьвё яго носяць.**

**І выйшлі на палеткі**
**Узяўшыся за рукі:**
**Унук пільнуе дзедку,**
**А дзед пільнуе ўнука.**

**Абодва неўзабаве**
**Прыселі ў дрэва ценю.**
**Выконваюць на славу**
**Бабулі даручэнні.**

## ДРАЎЛЯНЫ КОНЬ

**У хаце конь, драўляны конь**
**На выгнутых качэлях.**
**Ужо ў сядле сядзіць Лявонь**
**Нібыта ў каруселі.**

**І свіснуў на каня яздок,**
**Крыкнуў: — Імчыся скора!**
**І барабаніць каня ў бок**
**Нагою, быццам шпорай.**

**Ён фанабэрыста рукой**
**Трымаецца за грыву,**
**І патрасае галавой**
**Вясёлы і шчаслівы.**

**А калі падрасце Лявонь,**
**Паедзе ён да дзедкі,**
**І паімчыць сапраўдны конь**
**Яго сярод палеткаў.**

## ВАВЁРКА

**Пад маляўнічай горкай,**
**У лесе, ля дарожкі,**
**Адважная вавёрка**
**Стаіць на задніх ножках.**

**Стаіць так урачыста,**
**Без боязі і спешкі,**
**Чакае на турыстаў,**
**На смачныя арэшкі.**

**Бярэ з рукі ласунак,**
**Хавае недзе лоўка.**
**Па новы пачастунак**
**Прыходзіць хутка зноўку.**

**Хоць восені пачатак,**
**І ціхенька ў дуброве,**
**Вавёрачка заўзята**
**Робіць запас зімовы.**

## СЛЯДЫ ПРАЦЫ

**Калі рабочага стрэнеш**
**На вуліцы ці на двары,**
**У брудным зношаным адзенні,**
**Што брудны ён — не гавары.**

**Глянь ты на вопратку, далоні,**
**Перакапаешся тады,**
**Што мае на камбінезоне**
**Ён працы цяжкае сляды.**

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## СВАІМІ РУКАМІ

У класе настаўнік расказваў пра будаўніцтва ў нашай краіне. Дзеці ўважліва слухалі яго. Якія дамы, якія новыя фабрыкі і гарады ўяўляліся ім!

Калі ўрок скончыўся, вучні, радасныя і ўсхваляваныя, выбеглі на школьны падворак.

— Я хацеў бы вечарам заснуць, а прачнуцца не заўтра раніцай, але праз некалькі год. І адразу ўбачыць усё, што будзе зроблена! — сказаў адзін хлопчык.

— Не, — сказала дзяўчынка, — гэта не цікава. Я хацела б бачыць сваімі вачыма, як усё гэта робіцца!

— А я, — сказаў іншы хлопчык, — я хацеў бы рабіць усё гэта сваімі рукамі.

**Паводле Валянціны Асеевай**

*1. Чыё жаданне вам найболей падабалася?*

*2. Прачытайце словы ўголас. На якія часткі яны дзеляцца?*

Гара, газета, баравік, горад, кропка, панадворак, лейка, вароўка, толькі, пер'е.

*3. Адгадайце загадкі. Выдзеленыя словы падзяліце на склады.*

1. Доўгае вужышча па ўсяму свету свішча. 2. Сястра да брата ў госці ідзе, а брат ад яе хаваецца. 3. Два браты ў ваду глядзяць, а разам не сыходзяцца. 4. Прыйшоў вол, выпіў вады дол. 5. Маленькае, сухенькае ўсіх адзявае. 6. Чырвоненькі пеўнічак у зямліцы спявае.

## НАША ШКОЛА

За сялібай, на пагурку,
Дом з высокага падмурку
Ветлым поглядам вакон
Пазірае навакол.

Кожнай шыбінай, здаецца,
Ён і кліча, і смяецца,

Мы ўвосень агарожай
З клёнаў,
Ліпак
І бяроз
Акружылі дом прыгожы —
Хай прыгожа будзе скрозь!

Для футбола,
Валейбола
Мы расчысцілі там поле.

І цяпер на гэтым полі
Кожны дзень гульня ідзе.
Прыгажэй за нашу школу
Вы не знойдзеце нідзе!

**Рыгор Хацкевіч**

*1. Што зрабілі вучні, каб школа выглядала прыгожа?*

*2. Што яны падрыхтавалі для гульняў?*

*3. Як вучні вашай школы ўпрыгожылі школьнае наваколле?*

*4. Раскажыце пра знешні выгляд вашай школы і яе наваколле.*

*5. Прачытайце словы, падзяліце на склады. Чаму ў называецца нескладовым?*

Траўка, мыўся, няўдалы, маляўнічы, сяброўства, ездзіў, садоўнік, ляцеў, настаўніца, стаўся.

*Нескладовае ў пішам пасля галосных:* Ваня ўчора ў лесе назбіраў поўны кошык грыбоў. *Нескладовае ў вялікай літарай не бывае:* Мой знаёмы, Уладзік, жыве на Узбярэжжы ў горадзе Устка.

*6. Прачытайце верш. Падумайце, дзе замест кропак трэба ставіць* **у** *(складовае), а дзе* **ў** *(нескладовае).*

## А...ТАМАТЫ

— Прыйдзе, — кажа тата, —
не...забаве час,
б...д...ць а...таматы
працаваць на нас.

...здыха... з палёгкай
Абібок Ігнат:
— За мяне ...рокі
зробіць а...тамат!

**Віктар Швед**

*7. Утварыце новыя словы так, каб* **в** *і* **л** *перайшлі ў* **ў** *(нескладовае).*

Умова — умоўны,
дзіва — .....,
забава — .....,
аснова — .....,
слова — .....,

галава — галоўка,
лава — .....,
сліва — .....,
ніва — .....,
каліва — .....,

спявала — спяваў,
спяшалася — .....,
думала — .....,
хадзілі — .....,
смяяліся — .....

(Працяг са стар. 9)

## ПРАВЕДАЛІ

малако з содай і адразу перастаў кашляць. Паглядзеў на гадзіннік — у школу ісці не было ніякага сэнсу, я трапіў бы якраз на кантрольную па арыфметыцы. Таму я вырашыў лепш пайсці пагуляць. Потым вярнуся дахаты і лягу ў ложак, таму што да мяне прыйдуць сябры. З прывітаннем, Юрка."

*Усе смяюцца.*

Коля. Вось артыст. *(Да Сярожы.)* Цябе, Сярожа, як відаць зусім лёгка ашукаць.

Ліда. Падняў шум, быццам Юрка цяжка захварэў.

Сярожа. Юрка так умела кашляў... Цяжка было здагадацца, што ён прыкідваецца.

Рыта *(трымае ў руках пакуначак, перавязаны стужкай).* Хутка ён вернецца, што нам рабіць з пачастункам?

Саша. Не трэба даваць яму ніводнай цукеркі.

Рыта. Забярыце ў мяне пачастунак.

Коля. Пачакайце. Вось што *(да Рыты)*, дай мне яго сюды. *(Бярэ ў Рыты пакуначак, кладзе пад падушку, хавае туды ж запіску).* Я лягу ў Юркаву пасцель і буду выконваць ролю „Юрка цяжка хворы". *(Коля хуценька распранаецца і кладзецца ў пасцель, накрываецца коўдрай.)* Рыта, дай мне тваю хустку. *(Рыта падае яму хустку. Коля перавязвае лоб хусткай.)* А вы ўсе схавайцеся. *(Коля стогне і войкае. Дзеці хаваюцца: хто пад ложак, хто за крэдэнс, а хто пад стол.)*

*Уваходзіць Юрка.*

Коля *(войкае, крэкча голасам Юркі).* Вельмі баліць галава. Не магу вачэй расплюшчыць. Хто ўвайшоў?

Усе дзеці *(хорам).* Хто ўвайшоў?

Юрка *(здзіўлена).* Я, Юрка.

Коля. Што за Юрка? Які Юрка? Ты рэха майго голасу.

Усе *(хорам).* Рэха майго голасу!..

Юрка *(перапалохана пазірае на ўсе бакі).* Ой, ой, што гэта такое?

Коля. Ад гарачкі дваіцца ў вачах. Гэта я ў стане трызнення саскочыў з ложка, стаю ля дзвярэй і гляджу на самога сябе... Гэта ты мой цень!..

Усе *(хорам).* Ты мой цень!..

Юрка *(збянтэжана, плаксівым голасам).* Я гуляў на двары, я здаровы. Я прыкінуўся, што кашляю.

*Коля моцна кашляе. Усе заходзяцца ад кашлю.*

Коля. Я, Юрка, хворы, а ты, Юрка, мой цень, кажаш, што здаровы. Ха-ха-ха!

Усе *(хорам).* Ха-ха-ха!

Юрка. Я скажу праўду. Я не падрыхтаваўся да кантрольнай па арыфметыцы.

Коля. І я перадаў праз Сярожу, што дужа захварэў. *(Войкае.)* І папрасіў, каб усе прыйшлі праведаць мяне, прынеслі цукерак і пячэння. Усё гэта ляжыць пад маёй падушкай, але я не магу дастаць — няма сілы.

Усе *(хорам).* Няма сілы!..

Юрка *(пасмялеў, падыходзіць бліжэй да ложка).* Дзе цукеркі? Дзе пячэнне?

Коля *(да Юркі).* Не падыходзь блізка, я магу заразіцца ад цябе, мой цень, лянотай і прытворствам!..

Рыта. Ашукаў бабулю!

Ліда. Ашукаў Сярожу!

Саша. Ашукаў увесь наш клас!

Усе *(хорам).* Ашукаў! Ашукаў! Ашукаў!

*Коля зрывае з галавы хустку.*

Юрка *(пазнае яго).* Ой, Коля!

*Коля саскаквае з ложка. Дзеці выбягаюць са схованак. Акружаюць Юрку.*

Усе *(хорам).* Ой, Юрка!..

Саша *(выцягвае з-пад падушкі пакунак. Да Юркі.)* Гэта не для цябе...

*Уваходзіць бабуля з поўнай сумкай.*

Бабуля. Што за шум? Юрка, зараз жа кладзіся ў пасцель. Я табе дастала ліпавы мёд.

Коля і Сярожа. Ад „ліпавай" хваробы...

*Усе смяюцца.*

Заслона.

## Пазнаёмімся

СССР, 346555, Ростовская обл., Шахты, Пос. Майский, пер. Мостовой, 7-1. Осыкина Бэлла. 12 год.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Советская, 21. Моисеева Анюта. 11 год.

* * *

СССР, 346502, Ростовская обл., г. Шахты, пер. Красный Шахтёр, 16. Колтыковой Оксане. 12 год.

## Пішуць школьнікі

*ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!*

*Пасылаю Табе свой успамін аб летніх канікулах. Я — гэта Вольга Ваўчок, вучаніца пятага класа, член клуба „Дружба-неразлі-вадой". Я вельмі люблю чытаць Цябе, „Зорка". Перадай, калі ласка, прывітанне ўсім чытачам „Зоркі".*

### НА КАНІКУЛАХ

Лета я правяла ў бабулі на вёсцы. У першыя дні пасля прыезду я сумавала і не знаходзіла сабе занятку. Праз тыдзен у мяне з'явіліся сяброўкі. Кожны дзень мы прыдумвалі новыя гульні і забавы. Найбольш прыемным заняткам было купанне. Праз агарод мы прабіраліся да рэчкі. Хутка распраналіся і кідаліся ў ваду. Пасля купання мы выходзілі на беражок, сядзелі і адпачывалі. Часам сядзелі радком на поручнях мосту.

У гарачы ліпень мы хадзілі ў лес па ягады. Дні міналі хутка і непрыкметна.

Надышоў і жнівень. Надвор'е было цудоўнае, але вечары зрабіліся халаднаватымі. У садзе пачало жаўцець лісце. Час было збірацца дадому, бо хутка пачыналіся заняткі ў школе.

**Воля Ваўчок, 5 клас, Мінск.**

## ·А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А·



Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі. Чым займаюцца дзеці? А што вы ўмееце рабіць? Напішыце ў „Зорку".



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Piątek 29 XI** — 8.10 Hist. kl. IV. 9.30—12.00 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Powstańcza opowieść (6) — serial CSRS. 11.25 Tylko dla Ciebie. 12.00 J. pol. kl. VIII. 13.30 TTR — s. I Biol. 14.00 TTR — s. I Chem. 14.30 Kurs rolniczy. 15.35 W szkole i w domu. 15.55 Nurt. 16.55 Piątek z Pankracym. 17.20 DT. 17.30 Magazyn wędkarski. 17.50 Piłkarska kadra czeka. 18.05 Bez próby. 18.50 Wystąpienie Ambasadora Jugosławii. 19.00 Dobranoc: Lis i sroka. 19.10 Studium. 19.30 Dziennik. 20.00 Monitor Rządowy. 20.30 Powstańcza opowieść (6) — serial CSRS. 21.45 DT. 22.15 Sprawa dla reportera. 23.00 Widowisko poetycko-muzyczne. 23.50 DT.

**Sobota 30 XI** — 7.25 TTR — s. III Fiz. 7.55 TTR — s. III Biol. 8.25 Program dnia. 8.30 Tydzień na działce. 9.00 Sobótka oraz film „Domek na prerii". 10.30 DT. 10.40 Co się dzieje (1). 11.00 Bariery. 11.30 Z Polski rodem. 12.00 Lista przebojów. 12.30 Siedem anten. 13.15 Co się dzieje? (2). 13.30 Za kierownicą. 14.00 Konto „M". 14.30 Zdrowie. 15.00 DT. 15.05 Popołudnie z X muzą. 16.45 Magazyn PCK. 17.00 1/2 Finału Pucharu Polski w piłce nożnej. 18.50 Prosty rachunek. 19.00 Dobranoc. 19.10 Z kamerą wśród zwierząt. 19.30 Dziennik. 20.00 Film fab. USA. 21.30 Czas. 22.20 DT. 22.30 Puchar Interwizji w gimnastyce artystycznej. 23.00 Zabawa woskiem. 23.40 Dupout Lajavic — film franc.

**Niedziela 1 XII** — 7.30 Wszechnica rodziny wiejskiej. 7.50 Po gospodarsku. 8.15 Program dnia. 8.20 Tydzień. 9.00 Teleranek ora film „Gazda z Diabelnej". 10.30 DT. 10.35 Afryka (3) — ang. serial dok. 11.30 Ułamek sekundy (1) — włoski serial film. 12.20 Tam, gdzie rośnie wanilia. 13.05 Koncert Życzeń. 13.50 Kraj za miastem. 14.20 Wszystko albo nic (1). 15.00 DT. 15.05 Teatr dla dzieci. 16.05 Studio 1. 17.50 Wszystko albo nic — cz. II. 18.20 Antena. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 Pan na Żuławach (2) — serial TP. 21.00 Pegaz. 21.40 Sportowa niedziela. 22.15 Kulisy wielkiej polityki. 22.45 Leksykon polskiej muzyki rozr. 23.25 DT.

**Poniedziałek 2 XII** — 13.30 TTR — s. I Mat. 14.00 TTR — s. I J. pol. 15.55 Nurt. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Encyklopedia TDC. 16.55 Zwierzyniec. 17.20 DT. 17.30 Stawka większa niż życie (14) — serial TP. 18.30 Echa stadionów. 19.00 Dobranoc. 19.10 Laboratorium. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr Sensacji: Ivo Bresan — Przedstawienie Hamleta we wsi Głucha Dolna. 22.00 DT. 22.25 Magazyn literacki Pegaza. 22.25 DT. 23.00 J. niemiecki.

**Wtorek 3 XII** — 8.10 Geogr. kl. VII. 9.00 Plast. kl. II. 9.30—12.00 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Bel ami cz. 1 — film prod. franc. 11.40 Europejskie Parki Narodowe — „Szwecja" (1) — film dok. RFN. 12.50 Chem. kl. VIII. 13.30 TTR — s. III J. pol. 14.00 TTR — s. III Mat. 14.30 Kurs rolniczy. 14.50 Plast. kl. II. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Akademia Muzyczna. 16.55 Cojak. 17.20 DT. 17.30 Gazeta muzyczna. 18.00 Informator wydawniczy. 18.25 Pod znakiem Skarabeusza — rep. film. 19.00 Dobranoc. 19.10 Klinika zdrowego człowieka. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Bel ami (1) — film fab. franc. 21.40 DT. 22.05 Ludzie i zdarzenia. 22.45 Międzynarodowy Konkurs Orkiestr Dętych. 23.15 DT. 23.20 J. angielski (7).

**Środa 4 XII** — 8.10 Hist. kl. VIII. 9.00 Krajobraz Polski kl. IV. 9.30—12.00 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Konwój — film fab. USA. 11.50 Zielono nam. 12.00 Nauka o czł. kl. VII. 13.30 TTR — s. I Mech. rol. 14.00 TTR — s. I Hod. zwierz. 14.30 Kurs rolniczy. 14.50 Krajobrazy Polski kl. IV. 15.55 Nurt. 16.55 Program dnia + DT. 16.30 Krąg. 16.55 Tik-Tak. 17.20 DT. 17.30 Losowanie Ex. Lotka i Małego Lotka. 17.40 1/2 Finału Pucharu Polski w piłce nożnej. 18.30 Notatki z podróży. 19.00 Dobranoc. 19.10 Archiwum XX wieku. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Konwój — film fab. USA. 21.55 DT. 22.20 Barbórkowy koncert. 23.05 DT. DT. 23.10 Język rosyjski (7).

**Czwartek 5 XII** — 8.10 Fiz. kl. VII. 9.00 Praca-Tech. kl. I. 9.30—12.00 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Młoda żona — film obycz. ZSRR. 11.45 Apteczka domowa. 11.50 Historia najbliższa. 12.00 Hist. kl. IV lic. 12.50 J. pol. kl. V. 13.30 — s. III Mech. rol. 14.00 TTR — s. III Hod. zwierz. 14.30 Kurs rolniczy. 14.50 Praca-Tech. kl. I. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Magazyn szkolny, oraz film z serii „Był sobie człowiek" (14). 17.20 DT. 17.30 Wspólna Polska, wspólne sprawy. 17.55 Rzemieślnicy. 18.05 Ochrona środowiska. 18.30 Sonda. 19.00 Dobranoc. 19.10 Dom rodzinny. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr Sensacji: W: Łysiak — Selekcja. 21.55 DT. 22.20 Interstudio. 23.20 DT. 23.25 Język francuski (7).

## КІНО

**Bielsk Podl.** Spokojnie, to tylko awaria — USA 4—7. Werdykt — USA 10—13.

**Czeremcha** Pieniądz — fr. 4. Duch — USA 7—8.

**Czyże** Wściekły — pol. Adela jeszcze nie jadła kolacji — czes. 4—8.

**Hajnówka** Chrystus zatrzymał się w Eboli — wł. 5—6. Miasto kobiet — wł. 7—8.

**Michałowo** Unkas ostatni Mohikanin — rumuń. 5—6. Imperium kontratakuje — USA 7—8. Vabank II — pol. 10.

**Mielnik** Wujaszek z Ameryki — fr. 4—5. Anielska diablica — czes. 7—8. Policjantka — fr. 11—12.

**Milejczyce** Narzeczona — NRD. Gorzki romans — radz. 4—8.

**Orla** Operacja „Dąb" — rum. Miłość ci wszystko wybaczy — pol. 4—8.

**Nurzec** Nie będę cię kochać — pol. Vabank II — pol. 5—6. Sam na sam — pol. 7—8.

**Rajsk** Głos — radz. 4—8.

## ШТО-ДЗЕ-КАЛІ

### ДА ЧЫТАЧОЎ У БЕЛЬСКУ

Чытачы нашага тыднёвіка з'яўляюцца людзьмі, найбольш зацікаўленымі грамадска-культурным жыццём нашага грамадства. Добра, каб яны таксама актыўна ўключыліся ў дзейнасць Беларускага таварыства ў сваім асяроддзі. Патрэбныя тады сустрэчы чытачоў „Нівы".

У Бельску на вуліцы Міцкевіча 50/54 ёсць прасторны клуб БГКТ, дзе могуць сустракацца чытачы з горада. У клубе плануецца праводзіць такія сустрэчы ў кожную пятніцу вечарам. На іх будзе нагода пазнаёміцца з нашымі культурна-асветнымі дзеячамі, журналістамі „Нівы", літаратарамі і іх творчасцю. Апрача таго, у клубе ёсць магчымасць пачытаць прэсу, купіць кніжныя выданні БГКТ і цікава правесці час. Паважаныя чытачы і сімпатыкі „Нівы", наведвайце клуб у Бельску! Будзе гэта карысным з'явай у нашай грамадска-культурнай дзейнасці.

**Ян Мордань**

### ЯК ДАЕХАЦЬ У ТАЙНІЦУ?

Яшчэ ў першай палавіне бягучага года ля шашы з Юшкавага Груда ў Бандары стаялі дарожныя ўказальнікі, як даехаць у **Горную Тайніцу** або **Дольную Тайніцу**.

Найперш нехта збіў аўтамашынай ўказальнік з надпісам „Тайніца Гурна". Ляжаў ён на абочыне дарогі і крыху пазней недзе знік. Цяпер няма і другога ўказальніка на другім баку шашы, дзе якраз пачыналася дарога ў Тайніцу Дольную. Зараз нетутэйшым даводзіцца блудзіць.

Шмат гадоў стаяць драўляныя прызабытыя дарожныя ўказальнікі на скрыжаванні дарог каля чыгуначнага пераезда ў **Семяноўцы**. Адсюль разыходзяцца шляхі ў Луку, Тарнопаль і Ляўкова ды ў напрамку Семяноўкі і далей у Нараўку. Спамянутыя ўказальнікі (усіх іх тут стаіць чатыры) размоклі і пачарнелі да той ступені, што і надпісаў — не расчытаць.

Пяпер з Ляўкова ў Семяноўку **вядзе асфальтная дарога**. Указальнікі асталіся з тых часоў, калі **тут** была ўсяго пясчаная, з глыбокімі каляінамі ад „жалезных" вазоў дарога. Калі па ёй ехалі фурманкай, тады пыл стаяў стаўбом. (яц)

### Звычайны лёс пакалення дзядоў

Нарадзіўся ў Катлах, Бельскай гміны. Вайна 1914 г. як многіх тутэйшых людзей, так і яго сям'ю рушыла з месца. Было яму 16 гадоў, калі з бацькам Навумам і маці Агафіяй рушылі ў Казанскую губерню. Пад канец 1915 года маладзенькага Міхася Гарбацэвіча ўзялі ў войска ў Віцебскую губерню. Калі прыйшла рэвалюцыя, як кажа, „я пайшоў насіць краснаармейцам снарады".



Пасля Міхась дабрааховтна паехаў на Мурманскую жалезную дарогу. Працаваў стрэлачнікам, потым слёсарам у дэпо, памочнікам машыніста, потым быў высланы на курс машыністаў у Маскву. Пражываў у горадзе Кемі, там ажаніўся з Юсцінаю. У 1922 годзе нарадзіліся дочкі Вера і Шура. Мучыла нуда па роднай зямлі. Рашыў вяртацца. Цяпер кажа: „Я доўга цягаўся па свеце, але дома найлепш. У Катлах ужо нарадзіліся сыны — Якім і Уладзімір. Цяпер дочкі і сыны жывуць у Бельску, а сам Міхал Гарбацэвіч **з жонкаю, абоім па 87 гадоў**, здаўшы зямлю за рэнту, жыве ў роднай вёсцы.

Ад Міхала Гарбацэвіча можна пачуць многа цікавых легендаў.

**Андрэй Гаўрылюк**

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:

**Спісак чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| **327. Мікалай Аляксеюк (Беласток)** | — 1000 зл |
| **328. Мікалай Клімюк (Гайнаўка)** | — 1200 зл. |
| **329. Ян Якімюк (Гайнаўка)** | — 1200 зл. |
| **330. Гурток БГКТ у Крынках** | — 1390 зл. |
| **331. Ян Козяк (Беласток)** | — 1000 зл. |

Паведамляем, што экспанаты можна перадаваць у наступныя месцы:

у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова,
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы,
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54,
у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6,
у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах,
у Саколцы, вуліца Варынская 1,
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego, 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

Варшаўскія „атрасіны" ● На хутары за лесам ● Цяжкі хлеб Уладзіміра Юзвюка ● Дыялог аб канцы свету ● На сваім wydziedziczeni jak gdyby ● Алгалоскі ● Пад тваю абарону ● Беларускі фальклор ● Сардэчныя тайны ● Б. Паскробка адкрые таямніцы з-пад зямлі, і з-над зямлі ● Куток практычных ведаў ● Парнасік ● „Зорка" ● Што-дзе-калі ● Беларуская народная песня „Лявоніха" ● Гумар

## — КАЛЯНДАР —

**60 гадоў назад**

5.12.1925 пам. Ул. Рэймант, польскі пісьменнік.

**40 гадоў назад**

4.12.1945 пам. Т. Х. Морган, амерыканскі вучоны.


## Ніва

**ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**Галоўны рэдактар**
**Георгій Валкавыцкі**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**„Niwa"**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok skr. poczt. 149**
**tel. 232-41**

. . . . . . . . . .

Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe. 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart. 104 zł; półr. 208 zł; rocznej 416 zł.

**WARUNKI PRENUMERATY:**

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych miastach w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów:
   - osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli,
   - osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch".
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 23, 00-953 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę poczta zwykła jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc. dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę
- do dnia 10 listopada na I kwartał, I półrocze roku następnego oraz cały rok następny,
- do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bieżącego.

Zam. 954/85 r. Nakład 5.000. G-3.

## З чаго смяюцца суседзі

### Дэталь ад „Жыгулёў“

На навюткіх „Жыгулях“
Клім у нас трымае шлях.
Сціснуў руль, ажно дрыжыць —
Кліму слова не скажы.
Жонка: „Душна тут няўмеру!..“
„Ды ўтрываеш! — гыркнуў
зверам. —
Раз за разам адчыняць —
Форткі ў момант паляцяць!..“
Узяў за ручку сын-малеча —
Бацька: „Кінь такія рэчы!..
Шчэ чаго мне не хапала —
Гэта ж грошы капітала!..“
На навюткіх „Жыгулях“
Прыкаціла ў лес сям'я.
Самы раз і адпачыць,
Клім не з тых — злуе, пыхціць:
„От, праклятая дарога —
На капоце пылу многа!“ —
Лезе вышай, лезе ніжай,
Языком ледзь пыл не ліжа.
Мо з гадзіну драіў пчоткай —
Запыліў і лоб, і шчокі,
І анучай з паўгадзіны
Гразь сціраў старанна з шынаў.
І бурчэў сабе пад нос:
„І навошта вас я вёз!?
Аніякай дапамогі —
Угаманіўся да знямогі...“
На навюткіх „Жыгулях“
Клім дамоў трымае шлях.
Сціснуў руль, ажно дрыжыць —
Супраць слова не скажы.
Жонка: „Ты ж зусім змарнеў:
Цэлы дзень не піў, не еў...“
Глянуў Клім на жонку зверам:
„Прынясі ў гараж вячэру!..“
Клім да ночы сябе мучыў:
Ён і шчотка, іануча,
Лейка, гайка і дамкрат,
Пыласосу родны брат.
Клім — вадзіцель?! Хто напляў?
Ён дэталь ад „Жыгулёў“.

Васіль Маеўскі

### ЗНАХОДЛІВЫ

— Уяві сабе, учора вадзіцель аўтобуса паглядзеў на мяне з такім выразам, быццам я еду без білета.

— Ну, і як жа ты рэагаваў?

— Вельмі проста. Я паглядзеў на яго так, быццам білет у мяне быў.

### УМОВА

Дзве сяброўкі размаўляюць аб выхаванні дзяцей:

— А ты цалуеш сваіх дзяцей перад сном?

— Так, калі я не засну да таго, як яны вернуцца з дыскатэкі.






Кожнаму — сваё...

### ФАЛЬКЛОР




### З-ПАД БЕЛАРУСІ

Прыляцелі гусі та й з-пад Беларусі,
селі на дуброву, памуцілі воду.
Бодай тыя гусі тай дабра не зналі,
як мы кахаліся — цяпер перасталі.
Як мы кахаліся — нас бяда ні знала,
цяпер разышліся, як цёмная хмара.
А з той цёмнай хмары дробны дождж будзе —
з нашага кахання нічога ні будзе.
з нашага кахання нічога ні будзе.

Ад Яўгеніі Сурмач, 1911 года нараджэння, мястэчка Кузніца, запісаў 15 верасня 1985 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Малады чалавек нясе вялікі букет кветак і сустракае сябра, які пытае, куды гэта ён выбраўся.

— Іду прасіць рукі дачкі свайго начальніка.

— Якой? Дык у яго дзве дачкі?

— Сам яшчэ не ведаю. Калі ў яго будзе добры настрой, дык малодшай, а калі дрэнны, давядзецца ўзяць старшую.

*

Гутарка ў цырку:

— Зусім не разумею, як гэткі маленькі, кволы чалавек можа быць утаймавальнікам тыграў!

— Ён не выклікае ў іх апетыту.

*

— Што з табою, чаму ты такі злосны?

— Толькі што пазнаніў новы муж маёй былой жонкі і закаціў істэрыку, чаму на працягу трох гадоў супольнага жыцця я не навучыў яе варыць суп з фрыкадэлькамі!

### ЧАРОЎНАЕ СЛОВА

— Нешта вы, дзед, часта заглядаеце ў лячэбніцу? Ці не закахаліся ў лекарку?

— Нідзе праўды не дзенеш — люблю: яна мне кажа тое, што ад бабы за сорак год не дачакаўся.

— Што гэта?

— Разяўце рот, дзядуля! А баба кажа наадварот: „Закрый!“

З „Веснікa Задрыпонії“

### ПОСПЕХ ПТУШКАВОДАЎ

Практычна не б'юцца яйкі на Сакатунскай птушкафабрыцы. Група энтузіястаў вывела тут пароду курэй, якія нясуць яйкі крута.

### БАНТОН

Калі вы выпадкова даведаліся, што ў кагосьці з вашых таварышаў па службе вяселле, дзень нараджэння, імяніны, ці яшчэ нейкая ўрачыстасць, а вас чамусьці не запрасілі, дык не хвалюйцеся. Вазьміце з сабою пару здаровенькіх пляменнікаў і смела прыходзьце ў вызначаны час.







## Курёзы

### ПАРЫЖСКІЯ ЖУЛІКІ

Кіраўнік заходнегерманскага федэратыўнага ведамства крымінальнай паліцыі Генрык Боге прыехаў па справах у Парыж на дзвюх машынах і разам з целаахоўнікамі. Машыны яго былі аснашчаны сучаснай электроннай сістэмай сігналізацыі, ды і ахоўнікі не адыходзіліся ад іх ні на мінуту. І ўсё роўна гэтыя машыны, на здзіўленне начальніка, нехта спрытна абрабаваў. Каб не чырванець надта за сваю бездапаможнасць і разявацтва, Генрык Боге заявіў, што тут дзейнічала яшчэ невядомая тэрарыстычная група. Але хутка айчынная газета „Франкфуртэр рундшау“ аб'явіла, што рабаўнікамі на гэты раз былі заштатныя парыжскія жулікі, якія набілі руку на рабаванні турыстаў. Іх і асудзілі, як за самае простае злачынства, звязанае з аўтатранспартам.

### САПРАЎДНЫ МУЖЧЫНА

Сапраўдны мужчына — гэта мужчына, які дакладна памятае дзень нараджэння жанчыны і ніколі не ведае, колькі ёй год. Мужчына ж, які ніколі не памятае дня нараджэння жанчыны, але дакладна ведае, колькі ёй год — гэта яе сапраўдны муж.




Ад лёгкага жыцця адных заўсёды цяжка другім.